ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 3 (2529)
ПЯТНІЦА
15
студзеня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## НАТХНЁНЫМ РАЗЦОМ

**45** ГОД творчай дзейнасці за плячыма народнага мастака БССР, правадзейнага члена Акадэміі мастацтваў СССР Заіра Азгура.

166 работ знакамітага майстра прадстаўлены на выстаўцы, якая адкрылася ў памяшканні Дзяржаўнага мастацкага музея БССР. За гады творчай працы З. Азгур стварыў партрэты Маркса, Энгельса, Леніна, галерэю партрэтаў вядомых дзеячоў Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, выдатных дзяржаўных і грамадскіх дзеячоў нашай краіны, прадстаўнікоў культуры і мастацтва, лепшых людзей калгаснай вёскі, герояў Вялікай Айчыннай вайны.

З прывітальнымі словамі на адкрыцці выстаўкі да З. Азгура звярнуліся старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР В. Грамыка, намеснік міністра культуры БССР А. Ваніцкі, член прэзідыума Акадэміі мастацтваў СССР Ф. Рашэтнікаў, народны мастак СССР В. Пінчук, сакратар партыйнага бюро Саюза мастакоў Беларусі, народны мастак БССР С. Селіханаў.

Дзесяцігоддзі творчай працы аддаў З. Азгур мастацтву, апяванню прыгажосці чалавека, яго барацьбы за свабоду і шчасце.



На здымку нашага фотакарэспандэнта Ул. Крука—В. Пінчук, П. Броўка, З. Азгур, К. Крапіва ля кампазіцыі «Калыханка».

### У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

# ад пятніцы да пятніцы

## УРУЧЭННЕ ЎЗНАГАРОД

Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР Ц. Я. Кісялёў уручыў 11 студзеня дыпломы і знакі лаўрэатаў Дзяржаўных прэмій БССР за 1970 год дзеячам літаратуры і мастацтва рэспублікі.

Дыплом і знак лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы ўручаны народнаму паэту БССР А. А. Куляшову за пераклады кніг «Выбраная паэзія» М. Ю. Лермантава, «Энеіда» І. П. Катлярэўскага, «Спеў аб Гаяваце» Генры Лангфела.

Дыпломы і знакі лаўрэатаў Дзяржаўных прэмій БССР у галіне выяўленчага мастацтва ўручаны народнаму мастаку БССР, галоўнаму мастацкаму кіраўніку праекта А. А. Бембелю і архітэктару А. А. Стаховічу за мемарыяльны комплекс «Курган славы».

У галіне музыкі дыплом і знак лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР уручаны заслужанаму дзеячу мастацтваў БССР, кампазітару Я. А. Глебаву за музыку балета «Выбранніца» і араторыю «Свяці, зара».

У галіне тэатральнага мастацтва дыплом і знак лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР уручаны народнаму артысту СССР Л. Г. Рахленку за акцёрскія работы апошніх гадоў у Беларускім дзяржаўным ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічным драматычным тэатры імя Янкі Купалы.

Ц. Я. Кісялёў ад імя ЦК КПБ і ўрада рэспублікі сардэчна павіншаваў узнагароджаных, пажадаў ім новых вялікіх творчых поспехаў, моцнага здароўя.

Ад імя ўзнагароджаных выступілі народны паэт БССР А. А. Куляшоў і народны артыст СССР Л. Г. Рахленка. Яны горача падзякавалі Цэнтральнаму Камітэту Кампартыі Беларусі і Савету Міністраў БССР за высокую ацэнку іх працы.

Лаўрэатаў цёпла вітаў ад імя творчай інтэлігенцыі народны артыст СССР Р. Р. Шырма.

Пры ўручэнні ўзнагарод прысутнічалі члены камісіі па Дзяржаўных прэміях БССР, прадстаўнікі грамадскасці Мінска, пісьменнікі, дзеячы навукі і культуры, журналісты.

БЕЛТА.

У сталічным кінатэатры «Партызан» адбылася прэм'ера новага мастацкага шыронафарматнага каляровага фільма вытворчасці «Беларусьфільм» «Я, Францыск Скарына».

На сустрэчу з кінагледачамі прыйшлі стваральнікі гэтага фільма: рэжысёр - пастаноўшчык Б. Сцяпанаў, другі рэжысёр Ю. Філін, мастак Ул. Дзяменцьеў, дырэктар карціны В. Поршнеў, кінаакцёр А. Янкоўскі, народная артыстка БССР С. Станюта і іншыя.

На здымку — выступае выканаўца ролі Скарыны артыст Алег Янкоўскі.

## У ГЭТЫЯ ДНІ...

### ...ПАЧАЎСЯ

месячнік грамадска-палітычнай кнігі. Магазіны Упраўлення кніжнага гандлю Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку і Беларускага спажывецкага саюза прапануюць вялікі выбар твораў класікаў марксізма-ленінізма, кніг па гісторыі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і Кампартыі Беларусі, па марксісцка-ленінскай філасофіі, палітэканоміі, навуковым камунізме.

У кнігарнях будуць арганізаваны выстаўкі-продажы друкаванай прадукцыі, сустрэчы з ветэранамі рэвалюцыі і Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, аўтарамі кніг і знатнымі людзьмі рэспублікі.

### ...ПАДВЕДЗЕНЫ

вынікі Усесаюзнага конкурсу на лепшыя драматычныя спектаклі ў гонар 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, які быў арганізаваны Міністэрствам культуры СССР і Саюзам пісьменнікаў СССР.

Журы конкурсу вынесла рашэнне ўзнагародзіць Дыпломам III ступені Беларускі дзяржаўны Акадэмічны тэатр імя Я. Купалы за спектакль «Рудабельская рэспубліка» па аднайменнай аповесці С. Грахоўскага (аўтары інсцэніроўкі С. Грахоўскі, Т. Абакумоўская, Б. Луцэнка, рэжысёр-пастаноўшчык Б. Луцэнка).

Ганаровай граматай узнагароджаны Гомельскі абласны драматычны тэатр за спектакль па п'есе А. Маўзона «Жыццё ўсяго адно» (рэжысёр-пастаноўшчык народны артыст БССР І. Папоў).

### ...АДКРЫЛАСЯ

ў памяшканні Саюза мастакоў БССР пасмяротная выстаўка твораў М. Блішча, прысвечаная 50-годдзю з дня нараджэння мастака.

### ...АДБЫЛАСЯ

сустрэча творчай моладзі Мінска з удзельнікамі 25-й сесіі ААН. З цікавым расказам аб рабоце ААН выступілі ўдзельнікі апошняй сесіі ААН пісьменнік І. Навуменка і загадчык гарадскога аддзела народнай асветы Л. Кудраўцава.

Сустрэча, якая праходзіла ў Рэспубліканскім доме работнікаў мастацтва, закончылася праглядам кінафільмаў.

### ...СПОЎНІЛАСЯ

30 гадоў народнаму хору сяла Вялікае Падлессе Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Створаны Г. Цітовічам, зараз народным артыстам СССР, хор за гады свайго існавання не раз быў удзельнікам абласных і рэспубліканскіх аглядаў самадзейнага мастацтва, выступаў перад масквічамі.

Самадзейнаму калектыву ў 1965 годзе было прысвоена званне народнага.

## ВЫНІКІ КОНКУРСУ

Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па друку, Беларускае рэспубліканскае праўленне навукова-тэхнічнага таварыства паліграфіі і выдавецтваў, Беларускі рэспубліканскі камітэт прафсаюза работнікаў культуры падвялі вынікі конкурсу на лепшую работу абласных кнігагандлюючых арганізацый рэспублікі.

Пераможцамі конкурсу прызнаны калектывы Магілёўскага, Мінскага і Віцебскага аблкнігагандляў. Ім прысуджаны адпаведна першая, другая і трэцяя прэміі.

Гэтыя ж калектывы ўзнагароджаны ганаровымі граматамі Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку і Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў культуры.

## ПРЫСВЕЧАНЫ З'ЕЗДУ

У кінатэатрах рэспублікі пачаўся тэматычны паказ фільмаў, прысвечаных XXIV з'езду Камуністычнай партыі.

Беларускія кінадакументалісты паказваюць гледачам кінастужкі «Дачка партыі», «Барацьба і творчасць», «Вецер з Волгі», «Кветкі ў снежні», «Штрыхі да партрэта», «Браты Бонч-Бруевічы», «У агні жыцця», «Генерал Пушча», «Мужнасць».

Тэматычны паказ фільмаў пад дэвізам «Народ і партыя — адзіны» працягнецца да канца сакавіка.

## ЛІТАРАТУРА АБ ПРЫРОДНЫХ БАГАЦЦЯХ

Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў Беларускай ССР па ахове прыроды выдаў чарговы анатаваны спіс літаратуры аб прыродных багаццях і іх ахове, прызначаны ў дапамогу работнікам абласных інспекцый і арганізацый таварыстваў аховы прыроды, паляўнічых і рыбаловаў.

У спіс уключана 62 кнігі, якія выйшлі ў свет у розных выдавецтвах за апошні час. Сярод іх: зборнік «Запаведнікі Савецкага Саюза», пад рэдакцыяй А. Баннікава (выдавецтва «Колас», Масква), «Трагедыя дзікіх жывёл» (аўтар І. Акімушкін). «Нарысы прыродакарыстання» (аўтар кандыдат геаграфічных навук Ю. Куражкоўскі), «Прырода прад'яўляе рахунак» (аўтар Р. Парсон, пераклад з англійскай мовы).

Вялікую цікавасць уяўляе літаратура аб прыродных рэсурсах БССР, іх выкарыстанні і ахове. Выдавецтвам «Вышэйшая школа» добра выдадзена кніга «Ахова прыроды». У выдавецтве «Ураджай» выйшла манаграфія доктара геаграфічных навук В. Якушкі «Край блакітных азёр», шматгадовая праца вучоных і практыкаў — «Лясы Беларусі», брашура «Пушныя звяры Беларусі і іх здабыча» (аўтары В. Васількоў і Б. Галадушка). Выдавецтва «Навука і тэхніка» выпусціла кнігі: «Расліннае покрыва Беларусі», «Балотныя лясы і іх меліярацыя», «Метады ацэнкі балансу падземных вод» і іншыя.

Анатаваны спіс літаратуры аб прыродных багаццях і іх ахове адпраўляецца ў масавыя і тэхнічныя бібліятэкі рэспублікі.

Б. ПЯРКОЎСКІ.

## ПЯЮЧАЕ ДРЭВА

Ужо трыццаць пяць гадоў стварае свае інкруставаныя і выразаныя з дрэва кампазіцыі Дзмітрый Паўлавіч Сакажынскі. Ордэн «Знак пашаны», дзве Ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета БССР, сярэбраны і бронзавы медалі ВДНГ, мноства ганаровых дыпломаў розных выставак—вось узнагароды, якімі адзначана натхнёная праца брэсцкага ўмельца.

У вопытных руках Д. Сакажынскага ліпа, бяроза, клён, каўказскі арэх, чырвонае дрэва ператвараюцца ў творы мастацтва. Ён стварыў барэльеф на тэму подзвігу Брэсцкай крэпасці, партрэты Уладзіміра Ільіча Леніна, Максіма Горкага, Янкі Купалы, Вальтэра Ульбрыхта. Яго унікальныя шахматы — своеасаблівая маленькая «сімфонія» Белавежскай пушчы. Тут у выглядзе фігурак шахмат—самыя розныя прадстаўнікі жывёльнага свету гэтага запаведніка прыроды.

Сярод работ Д. Сакажынскага—мастацкая разьба ў інтэр'ерах вакзала станцыі Брэст, у кнігарні Брэста, на п'едэстале да манумента Ільіча ў адным з грамадскіх памяшканняў горада.

На гэтым здымку майстар зняты ў час работы над сувенірамі па матывах жывёльнага свету Белавежскай пушчы.

В. БАРХАТАВА.

## СЛОВА НА ДАРОГУ

*«СЕЛЬСКОЙ ГАЗЕТЕ» — 50 ГАДОЎ*

Будучаму даследчыку, якому выпадзе пісаць пра жыццё беларускага сялянства ў першае паўстагоддзе Савецкай улады, не абавязкова корпацца ў пажаўцелых архіўных дакументах. Няхай перагорне ён старонкі «Сельской газеты» і яе папярэдніц, і перад ім паўстане велічны шлях, які прайшла беларуская вёска.

Яна, газета, так і называлася спачатку—«Беларуская вёска». З пачуццём незвычайным учытваешся ў радкі таго першага нумара за 15 студзеня 1921 года. «Далёка ад горада, без газет, без праўдзівага жывога слова,—пісала газета ў сваім слове да чытачоў,—вы жывяце ў сваіх хацінах, адрэзаныя ад астатняга свету. Шмат пытанняў новага будаўніцтва вас цікавіць, многа робіцца ў вас такога, пра што неабходна даводзіць да цэнтра. Наша газета шырока раскрывае свае старонкі для розных заметак аб светлых і цёмных баках у вашым жыцці...»

Хто сфармуляваў гэтыя радкі? Мо Міхась Чарот, які ўваходзіў у першую рэдкалегію газеты, газеты, дзе не раз ён пасля друкаваўся? Сярод тысяч сваіх аўтараў, што пісалі ў газету з усіх куткоў рэспублікі, «Беларуская вёска» магла назваць і такія імёны, як Дзям'ян Бедны, Янка Купала, Кандрат Крапіва. Гэта ёй, газеце, прысвяціў Купала свой верш «Сей, вольны сейбіт».

Сей, вольны сейбіт,
Сей свой палетак!
А гэтак шчыра,
А дбала гэтак!

Сплыло пасля таго верша ледзь не сорак пяць гадоў. «Вольны сейбіт» ажыццяўляючы ідэі Леніна даўно засеяў ніву, на якой узышла наша сённяшняя ява, светлая і радасная. Пра яе нястомна расказваюць старонкі «Сельской газеты». Самалётамі і аўтамашынамі, паяздамі дастаўляюць яе падпісчыкам ва ўсе куткі Беларусі — у паўночны азёрны край і на асушаную балотную цаліну Палесся, у Прыдняпроўе і на ўзбярэжжа Заходняга Буга, на ўзгоркавую Навагрудчыну і раўнінную Случчыну...

Чытач газеты—гэта механізатар і вясковы настаўнік, жывёлавод і клубны завадатар, аграном і калгасны бухгалтар. Адным словам, вялізная і слаўная армія працаўнікоў, што гаспадарыць на зямлі—расціць хлеб, дае краіне мяса, малако і многае, многае іншае, з чаго складаецца дабрабыт кожнага чалавека.

Вось і сёння, напярэдадні XXIV з'езда КПСС, чытач разгорне чарговы нумар «Сельской газеты». Нарысы, замалёўкі, фотаілюстрацыі раскажуць яму пра натхнёную працу перадавых калгаснікаў і рабочых саўгасаў, лепшых прадстаўнікоў вясковай інтэлігенцыі. (Дарэчы, імёны сотняў і сотняў герояў працы сталі вядомы рэспубліцы менавіта са старонак газеты). Чытач даведаецца пра тое, як прыгажэе, добраўпарадкоўваецца наша вёска. Знойдзе ён у газеце і кваліфікаваную параду вучонага, і выступленне пісьменніка і артыста, і пісьмо вяскоўца, які расказвае пра сваё жыццё і работу (штогод рэдакцыя атрымлівае больш як 30 тысяч артыкулаў, карэспандэнцый, допісаў, пісьмаў, трэцяя частка іх трапляе на старонкі газеты).

50 гадоў «Сельской газете». 50 гадоў яна крочыць ў нагу з бурлівым часам не спадарожніцай—пераўтваральніцай. Добрага слова ёй на дарогу, добра крочыць ёй і далей праз гады-вёрсты!

Насустрач VI пісьменніцкаму

ТВОРЧАЯ ТРЫБУНА

Ніл ГІЛЕВІЧ

# БОЛЬШ ДАВЯРАЦЬ МАЛАДЗЕЙШЫМ

ПЫТАННЕ, якое я хачу закрануць у перадз'ездаўскай размове, можа, і не належыць да самых галоўных, і ўсё ж яно далёка не малаважнае. Ад правільнага вырашэння яго будзе залежыць многае, у тым ліку і справа далейшай кансалідацыі літаратурных сіл рэспублікі, і стварэнне больш здаровай і спрыяльнай атмасферы — у імя адзінай вялікай мэты: новага ўздыму і росквіту роднай літаратуры. Пытанне гэта, бадай, не столькі творчага, колькі арганізацыйнага характару. Ва ўсякай галіне грамадскага жыцця і вытворчасці недаацэнка арганізацыйных пытанняў прыводзіць да згубных вынікаў. Літаратурна-мастацкае жыццё і творчасць таксама не з'яўляюцца выключэннем.

Калі з гэтага боку паглядзець на становішча ў нашай літаратурнай арганізацыі, то лёгка кінецца ў вочы адна незразумелая і нічым не апраўданая неадпаведнасць: пісьменнікі найбольш актыўныя творча з'яўляюцца сёння найменш актыўнымі ў грамадска-арганізацыйным жыцці саюза. Вядома, тут ёсць выключэнні і ў адзін і ў другі бок, але ў цэлым карціна менавіта такая. Напрыклад, на сённяшні дзень у Саюзе пісьменнікаў Беларусі каля ста чалавек ва ўзросце ад 25 да 45 гадоў — больш адной трэці ад агульнай колькасці членаў саюза. Гэта якраз той узрост, які, на добры лад, павінен быў бы «несці галоўную службу» — людзі ў самым росквіце фізічных і творчых сіл. Што датычыць творчасці, то сапраўды трыццаці- і саракагадовыя працуюць цяпер найбольш актыўна і плённа. Гэта і натуральна. Было б дзіўна, калі б было наадварот, калі б пісьменнікі такога веку працавалі мала і адкладалі творчую актыўнасць на потым, бліжэй да пенсіі ці на пасля выхаду на пенсію. Назаву толькі некаторыя імёны: у паэзіі — гэта Ул. Караткевіч, А. Вярцінскі, П. Макаль, Е. Лось, А. Лойка, С. Гаўрусёў, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, Я. Сіпакоў, В. Зуёнак, Ю. Свірка, К. Цвірка, Д. Бічэль-Загнетава, А. Наўроцкі, Р. Тармола, А. Грачанікаў, М. Рудкоўскі і многія іншыя; у прозе — гэта І. Чыгрынаў, В. Адамчык, І. Пташнікаў, У. Дамашэвіч, Б. Сачанка, А. Кудравец, той жа Ул. Караткевіч, М. Стральцоў, Ул. Паўлаў і многія іншыя; у крытыцы — гэта В. Каваленка, Д. Бугаёў, А. Мальдзіс, П. Дзюбайла, А. Яскевіч, той жа А. Лойка, В. Рагойша, Г. Кісялёў, М. Ярош, А. Ліс, і многія іншыя. Адным словам, калі пагартаць гадавыя камплекты часопісаў і выдавецкія планы апошніх гадоў (планы арыгінальнай літаратуры, а не перавыданняў!), то прыйдзецца пагадзіцца, што «галоўную творчую службу» панеслі ўжо прадстаўнікі гэтых—пасляваенных—пакаленняў, што прыйшлі ў літаратуру ў канцы 40-х, у 50-я і 60-я гады. Гэта, вядома, ніяк не засланяе таго, што сёння робяць старэйшыя (дый паспрабуй засланіць такіх творча нястомных майстроў, як М. Танк, П. Броўка, А. Куляшоў, І. Мележ, І. Шамякін, Я. Брыль, А. Кулакоўскі і іншыя!). Гаворка ідзе аб тым, што ў літаратуру прыйшлі і занялі вялікае месца новыя пакаленні паэтаў, празаікаў, крытыкаў, драматургаў. Занялі вялікае месца ў літаратуры, на творчым фронце. Ну, а ў грамадскім і арганізацыйным жыцці саюза? Неадпаведна малое. Як гэта ні дзіўна, але гэта так. Усе найбольш істотна-важныя пытанні на ўсіх участках літаратурнага жыцця вырашаюцца фактычна без удзелу тых, хто ў вырашэнні гэтых пытанняў вельмі зацікаўлены, хто — мы пагадзіліся ўжо на гэтым — з'яўляецца сёння найбольш творча актыўнымі. На самай справе, які, скажам, іх удзел у кіраванні пісьменніцкай арганізацыяй? У сакратарыяце — ніводнага прадстаўніка гэтых пакаленняў. У прэзідыуме з 22 чалавек толькі адзін ва ўзросце да 45 гадоў — Г. Бураўкін (і той — члены праўлення помняць — быў далучаны ў самы апошні момант, пад націскам, паколькі і ён не прадбачыўся).

Могуць сказаць, што затое некалькі прадстаўнікоў гэтых пасляваенных пакаленняў уведзены ў склад праўлення саюза. Так, уведзены. Але дазвольце спытаць: а што гэта ўвогуле за кіраўнічы орган—праўленне саюза? Чым ён кіруе і якія жыццёва важныя пытанні вырашае? Я, напрыклад, ведаю, якія пытанні разгледзелі і вырашылі за пяць гадоў сакратарыят і прэзідыум, але я не ведаю пытанняў, вырашаных праўленнем. Будзем шчырымі: праўленне ў нас існуе дзеля праформы, ніякіх важных функцый яно не выконвае. Гэта, можна сказаць, орган ганаровы. Каму такое членства імпануе — хай на здароўе ганарыцца, але карысці з гэтага мала. Збіраецца праўленне 1—2 разы ў год і то часцей з выпадку якой-небудзь урачыстасці. Яго пленум — гэта звычайны агульны сход, дзе прымаецца нейкая пастанова агульнага характару. Ні думка, ні меркаванне, ні галасаванне кожнага члена праўлення тут ніякай ролі не адыгрывае. Сёння ў яго складзе больш як 60 чалавек — чвэрць ад усяго складу саюза. Гэта нават крыху смешна. Навошта столькі? Калі праўленне хоча быць сапраўды праўленнем, г. зн. органам кіравання, а не ганаровым органам, то, відавочна, дастаткова чалавек трыццаці. Гэта павінен быць орган жыццядзейны, мабільны, актыўны і надзелены важнымі функцыямі. Такія, напрыклад, пытанні, як прыём у саюз, зацвярджэнне планаў работы, справаздачы сакратарыята, работа друкаваных органаў і іншыя, павінны, на мой погляд, абавязкова разглядацца на праўленні. Калі праўленне будзе сапраўды праўленнем, тады, відаць, зусім не будзе неабходнасці ў існаванні прэзідыума. Будзе праўленне і рабочы сакратарыят. Мабыць, ужо многім і неаднойчы было сорамна глядзець, калі такая важная, радасная і ўрачыстая падзея ў жыцці маладога пісьменніка, як прыём у саюз, ператвараецца ў недарэчную камедыю, калі прыходзіцца з урначкай ездзіць па кватэрах і бальніцах і дазбіраць «галасы». Дык жа трэба нешта прыдумаць, каб падобнае не паўтаралася ў будучым. Мне здаецца, што выхад трэба шукаць на шляху рэарганізацыі органаў кіравання.

Гэта — што датычыць органаў кіравання. А вазьміце склады рэдкалегій пісьменніцкіх выданняў. У «Полымі» — адзін І. Пташнікаў, у «Немане» — Б. Спрынчан і С. Яўсеева, у «Беларусі» — зусім ні аднаго члена рэдкалегіі — пісьменніка ва ўзросце да 45-ці гадоў. Не думаю, што гэта нармальна, што так і павінна быць. Нельга ігнараваць думку тых, хто найлепш ведае сваё пакаленне і хто яго прадстаўляе ў літаратуры.

Гаворачы пра ўсё гэта, я не магу не ўспомніць выступлення М. А. Шолахава на 4-м з'ездзе пісьменнікаў СССР у маі 1967 года. Вось што гаварыў тады славуты пісьменнік аб адносінах да літаратурнай моладзі: «Я хачу прывесці некаторыя лічбы, якія прымушаюць прызадумацца і паварушыць мазгамі. На 1-м з'ездзе пісьменнікаў дэлегатаў да 40 гадоў было 71 працэнт, на 2-м — ужо толькі 26 працэнтаў, на 3-м — 13,9 працэнтаў і, нарэшце, з агульнага ліку на цяперашнім з'ездзе — ўсяго толькі 12,2 працэнты. Старэем, братцы пісьменнікі! І ці не пара падумаць аб тым, каб смялей прыцягваць маладых і на з'езд, і ў кіраўнічыя органы аддзяленняў і саюзаў пісьменнікаў... Сівізна, вядома, рэч пачэсная, але ці толькі яна павінна служыць пропускам да кіраўніцтва? Крышку сумнавата выглядае сярэдні ўзрост дэлегатаў цяперашняга з'езду, які набліжаецца да 60 гадоў. Але ж гэта — сённяшні дзень літаратуры, а добры гаспадар жыве не адным сённяшнім днём».

Тое, што на апошнім усесаюзным з'ездзе было толькі 12 працэнтаў дэлегатаў ва ўзросце да 40 гадоў — гэта, вядома, сумна. Але нам стане яшчэ больш сумна, калі мы ўспомнім, што і ў гэтых 12-ці працэнтах быў зусім не вінаваты Саюз пісьменнікаў Беларусі. З Беларусі не было ні аднаго дэлегата ва ўзросце да 40 гадоў!

Памылкова думаць, што, так-сяк кантактуючыся з маладзейшымі і паблажліва паляпваючы іх па плячы, можна спадзявацца на іх шчырую павагу і падтрымку. Павага бывае толькі ўзаемнай, або яе не бывае зусім. І грунтуецца яна на даверы ў агульнай справе, а не на словах. Але ж хіба гэта павага і давер, калі на людзей, у якіх за плячыма 15—20 гадоў творчай працы, усё яшчэ глядзяць як на літаратурных падлеткаў у кароткіх штоніках?

А між тым, у нашых блізкіх суседзяў робіцца не так. Вазьміце Саюз пісьменнікаў Літвы. У трыццаць год паэт А. Малдоніс стаў галоўным рэдактарам выдавецтва — і дай бог як працуе выдавецтва! У трыццаць з хвосцікам паэт А. Балтакіс стаў галоўным рэдактарам тоўстага літаратурнага часопіса «Пергале» — і выдатна спраўляецца! У 30 гадоў паэт А. Дрылінга стаў галоўным рэдактарам другога тоўстага часопіса «Нямунас» — і таксама ўжо колькі гадоў выдатна спраўляецца з гэтай пасадай! Або вось проста факт. Маладая літоўская паэтэса В. Пальчынскайтэ — ёй цяпер каля трыццаці гадоў — яшчэ ў 1967 годзе ездзіла з С. Міхалковым у Бельгію на міжнародны форум паэтаў. Пасля — чытаў я ў нашым друку — яна пабывала ў складзе савецкай дэлегацыі ў Югаславіі. І не пабаяліся ў Літве, што — маладая, што не справіцца з такой адказнай місіяй. Ці не гэта, скажыце, павага і давер'е да маладзейшага таварыша?

Многія старэйшыя таварышы ў нас працуюць вельмі актыўна. І гэта радасна бачыць. Але ж трэба, каб і моладзь падключалася, а не стаяла ўбаку. Зрэшты, трэба ж маладым і вопыт перадаваць. Некалі пасля вайны трыццацітрохгадоваму П. Кавалёву даверылі пасаду адказнага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў. І. Шамякін у трыццаць год быў рэдактарам альманаха «Советская Отчизна», а ў трыццаць тры стаў намеснікам старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў. Выходзіць, тады давяралі моладзі больш.

Гаворачы пра неабходнасць смялей прыцягваць да актыўнай арганізацыйнай работы маладзейшых таварышаў, мы, само сабой зразумела, маем на ўвазе людзей, якім сапраўды можна даверыць адказную справу, людзей ідэйна спелых, маральна вытрыманых, у творчых і ў іншых адносінах аўтарытэтных. Але хіба такіх таварышаў сярод нашых трыццаці і саракагадовых мала?

Даўным-даўно і вельмі правільна сказана: «Коль в тридцать лет рассудка нет—не будет и не жди». Узрост для пісьменніка, безумоўна, мае значэнне, але не вырашальнае. Гісторыя літаратуры ведае мноства прыкладаў, калі магутны паэтычны талент і надзвычайны розум поўна раскрываліся ў 18—20 гадоў. Успомнім, што Д. Веневіцінаў пражыў усяго 22 гады—і застаўся ў літаратуры. Роўна столькі ж пражыў выдатны славенскі паэт Срэчко Косавел, творы якога і цяпер перакладаюцца на многія мовы свету. Нарэшце, усяго 25 гадоў пражыў наш геніяльны Багдановіч. Разам з тым, вядома, што ў літаратуры былі і ёсць людзі, якім суджана да старасці хадзіць у «літаратурных недарасляч». І тут нічога не зробіш. Вырашае ўсё

З пошты ЛіМа

## ПАЗАРАСТАЛІ СЦЕЖКІ-ДАРОЖКІ

Лёзненшчына — край неўміручай баявой славы. Амаль у кожным населеным пункце раёна можна сустрэць помнікі савецкім воінам, што аддалі сваё жыццё за свабоду і незалежнасць Радзімы. Больш дзесятка вызваліцеляў Лёзненскага краю ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза.

Захаваць для нашчадкаў памяць аб верных сынах Радзімы, аб багаццях роднага краю—якая гэта важная і высакародная задача! У пачатку мая 1969 года нарэшце расчыніў свае дзверы краязнаўчы музей. У першы ж дзень яго наведалі сотні працоўных раёна.

На жаль, праз тры тыдні на дзвярах музея павесілі вялізны замок. Вісіць ён дагэтуль. Адным словам, пазарасталі да музея сцежкі-дарожкі. Чаму?

Д. СОМАЎ.

*ЧАЛАВЕКУ ГАВОРАЦЬ ДЗЯКУЙ*

# САМАЯ ПАТРЭБНАЯ Ў СЯЛЕ

**НЯЛЁГКАЯ праца на кінаперасоўцы. Але вось чалавек палюбіў сваю прафесію. Цяжкасці!.. Іх стала быццам меней... Так здарылася ў Клаўдзіі Міхайлаўны Гуліс, кінамеханіка сельскай кінаперасоўкі Лагойскага раёна.**

**Больш за дваццаць гадоў Клаўдзія Міхайлаўна ў дождж і ў зімовую сцюжу, спякотным летам і асенняй растаропіцай —у любое надвор'е дабіраецца да людзей. Усюды яе чакаюць, сустракаюць.**

**— Для мяне няма лепшай работы,— прызнаецца Клаўдзія Гуліс.**

**Яе кінаперасоўка абслугоўвае сем вёсак. У Корані, Украповічах, Чэрневе і Міхалковічах фільмы пакуль дэманструюцца ў старых, неабсталяваных брыгадных клубах, у Пуцілаве, Грамніцах і Церахах—у маленькіх класах пачатковых школ. Працаваць цяжка. Кінамеханікі кінаперасовак ведаюць, як неахвотна, асабліва ў летнія канікулы, дырэктары школ даюць класы для кіно.**

**Яшчэ нямала кінамеханікаў, якія не выконваюць нават плана пастаноўкі сеансаў, не наладжваюць сеансаў для дзяцей. Клаўдзія Гуліс сама знаходзіць гледачоў, дэманструючы фільмы ў больш зручны для калгаснікаў час. Ведаючы, што жывёлаводы, пажылыя людзі не могуць наведваць вячэрніх сеансаў, яна, маці чатырох дзяцей, едзе за многа кіламетраў у вёскі, каб арганізаваць дадатковыя сеансы ўдзень.**



**Калі кінамеханікі перасовак праводзяць за месяц па 30 дарослых і адным дзіцячым сеансе, то Клаўдзія Гуліс — 44 дарослых і 14 дзіцячых. У яе заўсёды па два фільмы, гледачы маюць магчымасць прагледзець і новы і стары, не хочуць адзін—могуць другі глядзець.**

**Думкі аб гледачы заўсёды хвалююць Клаўдзію Міхайлаўну. Яна шмат працуе над складаннем месячнага рэ-**

прыродны дар, розум, воля, жаданне і ўменне працаваць.

У літаратурным жыцці могуць і павінны дружна супрацоўнічаць людзі розных узростаў—ад дваццацігадовых да выбеленых сівізной дзядоў. І дружба ў прадстаўнікоў розных пакаленняў можа быць самая моцная, бо для гэтага ўзрост сам па сабе ані трохі не з'яўляецца перашкодай. Толькі трэба ў маладых літаратараў своечасова выхоўваць пачуццё творчай, чалавечай і грамадзянскай самастойнасці, упэўненасці, уласнай годнасці, каб у сталым, мужчынскім веку яны не адчувалі сябе «мальчиками на побегушках». Адсутнасць такога выхавання—праз актыўны ўдзел у грамадскім і літаратурным жыцці—вядзе да замаруджанасці творчага росту, да таптання на месцы, да творчай і грамадскай інфантыльнасці. Хіба не смешна бачыць, як пасівелы або аблыселы літаратар, аўтар многіх кніг і бацька дарослых дзяцей, усё яшчэ таўчэцца ў ліку маладых і сам верыць, калі яму хто-небудзь з дзядоў унушае: «Ты яшчэ малады! У цябе яшчэ ўсё наперадзе!» А што—наперадзе?—дазвольце спытаць у такім выпадку. Наперадзе, выбачайце, старасць. А старасць ёсць старасць. У адных—шчаслівейшых—яна можа быць творча плённай, а ў другіх—і не. Адным яна можа дазволіць актыўна ўдзельнічаць у грамадскім жыцці, а другім—і не. І гэтых, другіх, ніхто не мае права папракнуць. Дзякуй ім за тое, што яны зрабілі, калі былі маладыя!

Вось чаму мне хочацца звярнуцца да маладзейшых таварышаў з заклікам: смялей сцвярджайце сваю грамадзянскую і літаратурную сталасць, дарагія сябры! Не паддавайцеся шкоднаму ўнушэнню, калі вам нехта будзе паблажліва туркаць на вушка, што вы яшчэ маладыя і ў вас яшчэ ўсё наперадзе. Так, наперадзе ў вас многа, але за вялікую справу трэба брацца сёння і вялікія задачы перад сабою трэба ставіць сёння—пакуль вы сапраўды маладыя. Бярыцеся сёння за свой «Ціхі Дон» (Шолахаў напісаў яго ў 23 гады), за свой «Разгром» (Фадзееў напісаў яго ў 24 гады), за сваю «Нарач» (Танк напісаў яе ў 25 гадоў), за сваю «Новую зямлю» (Колас пачаў яе ў 28 гадоў).

А кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў—будзем спадзявацца — пасадзейнічае таму, каб творчы рост і ўзмужанне маладых ішло нармальным тэмпам, каб іх грамадская і пісьменніцкая актыўнасць адчувалася на ўсіх участках літаратурнага жыцця рэспублікі. Будзем спадзявацца, што яно паклапоціцца і пра лепшыя ўмовы друкавання для моладзі. Гадоў пяць назад была ўсчалася і, на жаль, тады ж захлынулася, гаворка пра выданне бібліятэчкі «Маладосці». Калі б не захлынулася—ужо б мелі 60 кніжачак паэзіі, прозы, драматургіі маладых аўтараў! Даўно варта павялічыць і бібліятэчку «Вожыка»—не 6 кніжак у год, а хоць бы 12. Гэта таксама была б нейкая аддушына для маладых, якія выступаюць у жанры гумару і сатыры. Дый ці мала чаго можна дабіцца і зрабіць!

Хацеў бы спадзявацца, што гэтае маё слова будзе ўспрынята як шчырае жаданне дапамагчы пераадолець некаторыя цяжкасці, што стаяць на шляху да больш цеснай ідэйна-творчай кансалідацыі літаратурных сіл Беларусі, на шляху да новага ўздыму і росквіту роднай літаратуры.

**пертуарнага плана, вывучае заяўкі, заўсёды імкнецца выканаць іх. Асаблівую ўвагу ўдзяляе паказу лепшых твораў савецкага кінамастацтва. Такія фільмы, як «Журавелька», «Першая дзяўчына», «Асеннія вяселлі», «Іван Макаравіч», «Тры тапалі на Плюшчысе», «Няўлоўныя мсціўцы» прагледзела дваццаць працэнтаў насельніцтва яе вёсак. На сеансах «Вяселля ў Малінаўцы» пабывала амаль палова жыхароў вёскі Корань, на фільмах «Вясковы дэтэктыў» і «Дажывём да панядзелка» кожны трэці жыхар Пуцілава і Чэрнева. А як настойліва, разумна яна прапагандуе і паказвае фільмы сельскагаспадарчай тэматыкі!**

**Дружыць Клаўдзія Гуліс і з самымі цікаўнымі гледачамі—дзецьмі. Яны дапамагаюць ёй перавезці і ўстанавіць кінаапаратуру, пісаць і расклейваць рэкламу, абвяшчаюць жыхарам вёскі аб маючым адбыцца фільме. Яна не забывае аб сваіх верных памочніках: заўсёды стараецца выбраць для іх цікавы і карысны фільм, паказаць яго ў зручны для школьнікаў час. Фільмы, як правіла, дэманструюцца ў прысутнасці настаўнікаў.**

**Імя перадавога кінамеханіка занесена ў Кнігу гонару Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі. Шмат разоў яна атрымлівала ганаровыя граматы, прэміі, стала ўдарнікам камуністычнай працы.**

**Я. БЯЛЯК.**



Магілёўскі народны сімфанічны аркестр — адзін з самых папулярных самадзейных калектываў горада. Дырэктар музычнага вучылішча Міхаіл Салдатаў (кіраўнік аркестра) і іншыя педагогі прыцягваюць у яго як самых здольных сваіх вучняў, так і ўдзельнікаў самадзейнасці прадпрыемстваў і ўстаноў.

Нядаўна самадзейныя музыканты далі свой трохсоты канцэрт. Ён быў прысвечаны 200-годдзю з дня нараджэння Бетховена. Здымак зроблены ў час гэтага канцэрта.

Фота М. ЖАЛУДОВІЧА. (БЕЛТА).

# ВОСЬ ТАК МЫ І ЖЫВЁМ...

**(Працяг. Пачатак на 3-й стар.).**

сталася ў тых вёсках, якія раней уваходзілі ў саўгас «Рачкавічы». А пад наш саўгас адышлі вёскі былога «Майскага промня», у якіх не было ніводнага тыповага кароўніка, цялятніка, не было майстэрні для рамонту тэхнікі. А тут на пяты наступала пасяўная. Акрамя таго, у саўгасе не хапала кармоў для буйной рагатай жывёлы, для свіней. Спіртзавод, брага з якога раней выручала жывёлу ўсіх брыгад, застаўся па-ранейшаму ў «Рачкавічах». А дырэктар гэтага саўгаса, чалавек пажылы, вопытны і даволі хітры, неўзабаве парушыў умову, згодна з якой мы павінны былі пасля раздзелу атрымліваць брагу для жывёлы. І хутка нас адшыў. Маўляў, не хапае для сваіх ферм. Цяжкавата нам прыйшлося ў той час. Не раз выходзіў дырэктар з канторы — невялікай старой хаціны — і пазіраў у бок Рачкавіч на высокую жалезную трубу, якая ўзвышалася над вёскай, і гаварыў:

— Эх, нам бы такую трубку!..

Я яго разумеў. Гэтая «трубка» многа цяпер значыла. Акрамя таго, што яна карміла кароў і свіней, «трубка» дапамагала яшчэ і «даставаць» запчасткі для трактараў і машын, так неабходныя гаспадарцы ў гэты час. Але ў нас «трубкі» не было. І мы павінны былі разлічваць на свае сілы. Прыйшлося некалькі разоў з'ездзіць у Мінск. Там удалося дастаць нарад на жамерыны, якія пачалі вазіць у бездараж на сваім транспарце чортведама адкуль, блізкі свет, аж з Гарадзеі. Ферму ўтрымалі на ўзроўні, а транспарт напярэдадні сяўбы дабілі да ручкі. Тады, каб не заваліць сяўбы, узяліся за рамонт тэхнікі. Ездзілі па калгасах, па арганізацыях, шукалі запчастак. З'ездзілі ў Бабруйск, звязаліся з шэфамі — заводам гумаватэхнічных вырабаў — і тыя таксама дапамаглі: адпусцілі нібыта на выпрабаванне аж дваццаць пар скатаў для аўтамашын. На той час гэта было цэлае багацце. Хутка мы «абулі» амаль увесь свой аўтатранспарт. Пасля таксама з Бабруйска прывезлі некалькі трактарных прычэпаў з гноераскідвальнікамі, адрамантавалі трактары, сеялкі, культыватары і сяўбу не правалілі. Праўда, рамонт тэхнікі праводзілі пад адкрытым небам, але механізатары не падвялі.

Вельмі цяжка прыйшлося і са свінафермай. Саўгасная свінаферма была ў раёне якраз на добрым рахунку. На ферме працавала знатная свінарка камуністка Софія Сячко, узнагароджаная за сваю работу ордэнам Леніна. І нам вельмі ж не хацелася, каб раптам пасля раздзелу саўгаса знізіліся яе паказчыкі. Мы ездзілі ў раён, у Мінск, прасілі мукі, камбікорму, падчышчалі свае засекі, і ўсё ж ферму ўтрымалі на ўзроўні.

І ўсё было б добра, каб першыя поспехі не ўскружылі галаву маладому дырэктару. Спачатку ён раіўся з членамі бюро партыйнай арганізацыі, са спецыялістамі, з камуністамі, а пасля перастаў лічыцца з іх думкамі і ўсе справы ў саўгасе вырашаў самастойна. Скончылася тым, што дырэктара звольнілі з работы. На яго месца прызначылі новага чалавека, які працуе і цяпер,—Мікалая Ільіча Васілевіча.

Калі Васілевіч першы раз прыехаў у саўгас і пачаў знаёміцца з гаспадаркай, настрой у яго адразу сапсаваўся. Саўгас працаваў нерэнтабельна, аб прыбытках не магло быць і гаворкі. На фермах беспарадак, свінаферму скасавалі: спецыялізацыя! Паспрабуй, выканай план здачы мяса дзяржаве без свінагадоўлі! У калектыве спрэчкі, недавер. Заатэхнік усю віну звальваў на агранома, нібы той вырошчвае дрэнныя кармы, аграном вінаваціў інжынера, маўляў, той не забяспечвае паляводаў тэхнікай, і па гэтай прычыне кармы нізкай якасці, той скардзіўся, што няма запчастак. Спецыялісты спрачаліся, а справы ў саўгасе ішлі кепска. А цяпер—дзіву даешся: у саўгасе амаль усе тыя ж самыя спецыялісты, што былі і раней. Як кажуць, тая самая зямля і тыя людзі, а якая зладжанасць у іхняй рабоце! А ўсё таму, што дырэктар змог згуртаваць калектыў.

Мікалай Ільіч — чалавек таксама адносна малады. Яму трыццаць пяць гадоў. Але ён вельмі сур'ёзны, удумлівы, не любіць, як кажуць пра яго рабочыя, разменьвацца на дробязі. І справядлівы.

Сам ён па спецыяльнасці аграном, і зямельку любіць, клапоціцца аб ёй. Ніколі ў нас не вывозілі на палі столькі ўгнаенняў. Вось вам і вынікі: ураджай склаў па 23,6 цэнтнера збожжа з гектара.

Вырошчваем мы зараз і добрую бульбу, і цукровыя буракі (дарэчы, гаспадарка спецыялізуецца на насенневодстве буракоў і іншых культур). Вялікі прыбытак маем ад гароху, дакладней ад зялёнага гарошку, якога ў нас 30 гектараў. Саўгас асноўны пастаўшчык гэтай каштоўнейшай культуры Слуцкаму кансерваваму заводу.

А паглядзіце зараз саўгасныя фермы. Сёлета гаспадарка дасць 350 тон мяса.

З кожным годам павялічваецца і вытворчасць малака. Сярэдні надой на кожную фуражную карову ў 1969 г. склаў 2540 кілаграмаў, у сямідзесятым звыш 2700 кілаграмаў.

Я хаджу па саўгасе і ўспамінаю, як некалі тут забівалі першыя калікі. Спачатку вырас адзін васьмікватэрны дом. Прыгожы, белы, з усімі выгодамі, ён горда ўзвысіўся над наваколлем. Яго засялілі спецыялісты, і хтосьці даў яму смешную назву — «Белы дом». Так яго называюць і цяпер. Потым каля «Белага дома» вырас яшчэ адзін дом — шаснаццацікватэрны, які засялілі рабочыя. Потым непадалёк вырасла тыповая майстэрня, абсталяваная першакласнымі станкамі... Ды ўсяго і не пералічыць, што пабудавана ў саўгасе за гэтыя шэсць гадоў. Два сельмагі, адзін прадуктовы магазін, камбінат бытавога абслугоўвання, механізаваная кузня, Вадакачка, кацельня, гараж, запраўчная, кантора. Пад жыллё рабочым здадзены чатырохкватэрны дом у Чапліцкім пасёлку. Зусім нядаўна, напярэдадні кастрычніцкіх свят здадзены ў эксплуатацыю яшчэ адзін шаснаццацікватэрны дом. Дзве кватэры ў ім абсталяваны пад медыцынскі пункт, адна пад гасцініцу, а трынаццаць—засялілі рабочыя. У саўгасе пабудаваны два тыповыя кароўнікі на 200 галоў кожны, канюшня, два зерне-склады (адзін з поўнай механізацыяй, разлічаны на 1000 тон збожжа). Акрамя таго, гаспадарчым спосабам адрамантаваны ўсе старыя жывёлагадоўчыя памяшканні. Зараз заканчваецца будаўніцтва склада запчастак. На месцы, дзе было голае поле, сёння, праз шэсць гадоў, вырас сапраўдны сельскагаспадарчы пасёлак. Заўважце, усяго за шэсць гадоў!

А далей за пасёлкам—сады, сады... Плантацыі чарнаплоднай арабіны, чорнай парэчкі, культурнай шыпшыны. Саду ў саўгасе—100 гектараў.

Адным словам, саўгас «Танежыцы» зараз моцная, багатая, механізаваная гаспадарка, аснашчаная навейшай сельскагаспадарчай тэхнікай. І людзі жывуць заможна, культурна, цікава.

...Калі пачаў пісаць гэтыя радкі, стаяла позняя восень—час, пра які можна сказаць: гэта ўжо не восень, але яшчэ і не зіма. Я люблю гэтую пару. Люблю ісці вуліцай у гумавых ботах, калі ляпае мокры снег. Люблю пазіраць на рабіну пад вокнамі, якую густа абсыпаюць і клююць сяўцы, і на індыкоў: млявых і кволых, якія хапаюць кіслыя чырвоныя ягады, што ўпалі з дрэва.

Люблю нашу вуліцу вечарам, калі скрозь гараць электралямпачкі і асвятляюць адначасова і новыя дамы, пакрытыя шыферам, і антэны тэлевізараў. Радуешся дастатку людзей, усяму таму, што зроблена, і разам з тым думаеш аб тым, як шмат трэба яшчэ зрабіць, якая вялікая работа чакае наперадзе. Трэба забрукаваць вуліцу, пралажыць да шашы дарогу, бо як толькі пройдзе дождж, дык аўтобус да нас і носа не паказвае. Ды не толькі аўтобус. Пасля зацяжных дажджоў, акрамя трактараў, ніякі транспарт не можа прайсці па нашых дарогах. Позняй восенню, зімой у час снежных заносаў і напрадвесні кожную грузавую машыну да шашы суправаджае трактар. А машыны не стаяць. Адна вязе хлеб, другая пошту, трэцяя малако, чацвёртая тавары ў магазін, пятая са станцыі мінеральныя ўгнаенні.

Вось чаму не раз прыходзіцца чуць папрокі ад рабочых: «Не могуць яны засыпаць лужыну, не могуць зрабіць дарогу...» Хто гэта—«яны?» Яны—у першую чаргу, дырэктар саўгаса, раённае кіраўніцтва, раённыя будаўнічыя арганізацыі. Праўда, погляды рабочых я падзяляю не цалкам. Я разумею, што саўгасу яшчэ не пад сілу забрукаваць усе вуліцы ва ўсіх вёсках, далёка яшчэ не пад сілу зрабіць добрую дарогу даўжынёй 13 кіламетраў (ад цэнтра да шашы). І ўсё ж сіламі саўгаса сёе-тое робіцца ў гэтым кірунку. Саўгасным транспартам за сродкі сельскага Савета вымашчана частка вуліцы ў Чаплічах, узнята дарога бульдозерамі на адлегласці каля сямі кіламетраў. А вось Слуцкае дарожнае ўпраўленне, заключыўшы дагавор з саўгасам аб будаўніцтве дарогі, да гэтага часу не выканала план будаўніцтва. І ўсё ж, я ўпэўнены, дарогі будуць! Будуць засыпаны лужыны, забрукаваны вуліцы, будзе пракладзен асфальт. Мы да гэтага ідзём! І мы гэта зробім!

**Заканчэнне ў наступным нумары.**

Аскар ГАНТМАН,

Вольга НЯЧАЙ

# «БЕЛАРУСЬФІЛЬМ»— УЧОРА, СЁННЯ, ЗАЎТРА...

АРТЫКУЛ ДРУГІ

ТРЭБА адзначыць, што на пачатку дзейнасці студыі ў новых умовах былі і пэўныя аб'ектыўныя прычыны, якія не маглі не ўплываць, асабліва ў першыя два гады пасля пераезду ў новае памяшканне, на якасць выпускаемых твораў. Старое кіраўніцтва студыі (дырэктар Ф. Кукушкін і галоўны рэдактар М. Гарулёў) не падрыхтаваліся да вышэйшага ўзроўню творчай і вытворчай працы. Бо нават колькасць фільмаў, якія рыхтуе ў год калектыў, павінна была падвоіцца! Кіраўніцтва было заменена. Адначасова быў вызвалены ад абавязкаў мастацкага кіраўніка студыі Ул. Корш-Саблін. Дырэктарам студыі быў прызначаны І. Дорскі, галоўным рэдактарам—А. Куляшоў, членамі рэдкалегіі—М. Лужанін, К. Губарэвіч, М. Фрайман і В. Гузанаў. Новая рэдкалегія прыняла ад папярэдняй рэдактуры... пусты партфель: гатовых да запуску ў вытворчасць сцэнарыяў не было. Спатрэбілася два гады, каб з цяжкасцямі выправіць катастрафічнае становішча. У 1961 годзе былі выпушчаны зборнік кінанавел «Расказы пра юнацтва», «Маленькія летуценнікі» і «Дзень, калі спаўняецца 30 год». У 1962 годзе—фільмы «Вуліца малодшага сына» і навелы «Мост» і «Сталёвая калыханка». А ў наступным годзе ў вытворчасць былі запушчаны фільмы па сцэнарыях, якія «заляжаліся» на маскоўскіх студыях, — «Увага, у горадзе чараўнік!» і «Сорак мінут да світання». З аповесці В. Труніна, надрукаванай у часопісе «Юность», быў зроблены сцэнарый «Апошні хлеб». Фактычна ў літаратурнай першакрыніцы не хапала матэрыялу для поўнаметражнага мастацкага фільма. І хаця ў ім была неблагая аператарская работа і шэраг даволі ўдалых сцэн, у якіх праявілася рэжысёрская майстэрства Б. Сцяпанава, фільм доўга не затрымаўся на экране. Першым значным па ідэйна-мастацкім узроўні сцэнарыем, пастаўленым у шэсцьдзесят трэцім годзе, была «Трэцяя ракета» В. Быкава (рэжысёр фільма Р. Віктараў).

Сцэнарная праблема заставалася праблемай нумар адзін. Да яе звярталіся прамоўцы на пленумах і з'ездах кінематаграфістаў і пісьменнікаў, крытыкі і рэцэнзенты ў артыкулах. Агульнавядомая ісціна: няўдача, сярэдні і нізкі ўзровень большасці беларускіх карцін — вынік пасрэднай драматургіі. А ў вытворчасць запускаюцца сцэнарыі выпадковыя, зусім не цікавыя для студыі, бо жыццё Беларусі ў іх бярэцца толькі як фон, як месца дзеяння. Недапрацаваныя літаратурныя сцэнарыі рашуча змяняюцца на здымачнай пляцоўцы рэжысёрам і акцёрамі. Здараецца і так, што ў сцэнарыі, які запускаецца ў вытворчасць, ёсць ідэйныя, філасофскія заганы, пра якія гавораць на абмеркаванні, але ўсё ж да здымак бласлаўляюць. І потым ужо друк дае яму ацэнку, якую фактычна ён атрымаў на «сцэнарнай стадыі» — на ранейшых абмеркаваннях (напрыклад, так здарылася з «Усходнім калідорам»).

Нельга сказаць, што ўсе гэтыя пытанні не турбавалі работнікаў студыі, што не рабіліся спробы ўнесці творчы і арганізацыйны лад у вытворчую стыхію. Наадварот, спробы рабіліся даволі часта. Калі б хаця якая частка добрых намераў была ажыццёўлена, сёння, пэўна, наша кінематаграфія перажывала б росквіт, драматургія плённа б развівалася.

Сапраўды, прыслухайцеся, як надзённа гучаць сёння гэтыя словы:

«Асноўная і самая важная праблема на нашай студыі ды і на іншых студыях — сцэнарная праблема. Мы павінны зрабіць усё магчымае, каб яе вырашыць, ад гэтага залежыць увесь далейшы лёс студыі...

Што нас зараз турбуе больш за ўсё? Трэба сабраць вакол сцэнарнага аддзела кадры. Дзеля таго, каб іх сабраць, на студыі мы мяркуем стварыць сцэнарную майстэрню. Мы знойдзем пэўную колькасць людзей, якія б займаліся гэтай справай, самі стваралі сцэнарыі і дапамаглі б нашым аўтарам... З намі ўжо працуюць Караткевіч, Бекарэвіч, Нямёнава, Трунін, Каплінская. Нейкі касцяк гуртуецца. Мы не збіраемся абмяжоўвацца сваімі кадрамі, мы будзем шукаць здольных людзей у іншых гарадах —Маскве, Ленінградзе, дамаўляцца са здольнымі сцэнарыстамі, якія канчаюць інстытут кінематаграфіі...

Перад намі адкрываюцца вялікія магчымасці для азнаямлення сцэнарыстаў з жыццём рэспублікі. Мы здолеем паслаць іх у калгас, на будоўлю, на прадпрыемства. Каб яны панюхалі, як кажуць, новага жыцця. Будзем праводзіць сустрэчы з журналістамі, гэта людзі, якія шмат бачаць і шмат ведаюць, ад іх можна пачуць карысныя думкі».

Гэта была сапраўды праграмная прамова М. Лужаніна, у якой былі далей закрануты такія пытанні, як неабходнасць сістэматычна знаёміцца з партфелямі выдавецтваў і часопісаў Мінска, Масквы, Кіева, скласці план экранізацыі і перспектыўны тэматычны план. Прапанаваліся тэмы аб людзях новых для Беларусі прафесій — шахцёрах, хіміках, энергетыках, аб якіх трэба было б расказаць, вядома, не з прафесіянальнага пункту гледжання, а з таго, на якую ступень узнялася свядомасць людзей. Гаварылася і пра тое, што нічога па-сапраўднаму яшчэ не сказана ў кіно пра Мінск, пра новых людзей у вёсцы — механізатараў. Планавалася закрануць у будучых фільмах і тэму рэйкавай вайны, мінскае падполле, Кастрычнік у Беларусі, гісторыю подзвігаў Даватара, Марата Казея, больш далёкае гістарычнае мінулае — магілёўскае паўстанне 1610 года, паўстанне Кастуся Каліноўскага. Была задума стварыць прыгодніцкі альманах «Свет прыгод».

Усё гэта гаварылася на мастацкім савеце студыі яшчэ ў 1961 годзе. На парадку дня стаяла пытанне «Абмеркаванне сцэнарнай праблемы, далейшай работы сцэнарнага аддзела па забеспячэнні студыі сцэнарыямі». Тады, праўда, гучалі і больш асцярожныя галасы.

— Я хачу ўспомніць былыя гады, калі ў нас былі такія пачынанні. Калі ўсё гэта будзе як мае быць арганізавана, можна будзе толькі вітаць, — сказаў С. Сплашноў.

— Нам вельмі прыемна, што такая вялізная праграма намечана студыяй. Трывожыць іншае, як гэта ажыццявіць, — падтрымліваў А. Кучар.

У заключным слове дырэктар студыі і старшыня мастацкага савета І. Дорскі рэзюміраваў:

— Я лічу, што абмеркаванне гэтага пытання на мастацкім савеце прынясе вялікую карысць. Прынцып работы сцэнарнага аддзела гэтыя прапановы вельмі змяняць. Ад работы над тым, што прыходзіць само, ён пяройдзе да арганізацыі матэрыялу... Ад сцэнарных спраў залежыць беларуская кінематаграфія. Чым шырэй будзе кола асоб, якіх мы запросім, тым большага мы даб'ёмся... Сцэнарны аддзел — першы цэх на студыі, і мы ўсё зробім, каб стварыць неабходныя ўмовы для яго плённай работы, але і патрабаваць будзем з яго. Студыя павінна быць забяспечана сцэнарыямі...

Задумы былі добрыя... Былі...

Прайшло два гады. На мастацкім савеце ў маі 1962 года пры абмеркаванні прыкладнага плана фільмаў на гісторыка-рэвалюцыйную тэму зноў аўтарытэтна гаворыцца: «Мы створым сцэнарную майстэрню, якая нам дапаможа вырашыць гэтыя тэмы». Абмяркоўваючы тэматычны план на 1963 год, члены мастацкага савета ставілі пытанне: ці ёсць у сцэнарным аддзеле паслядоўны план падрыхтоўкі сцэнарыяў? На гэта былі такія адказы: «Нам іншы раз даводзіцца лічыцца з неабходнасцю. Ёсць сцэнарыі, якія мы лічым першачарговымі. Але часта нам даводзіцца ўлічваць іх гатоўнасць... Некаторыя сцэнарыі, якія значацца ў тэматычным плане, могуць аказацца не гатовымі ў тэрмін ці патрабуюць яшчэ доўгай дапрацоўкі. Так бывае заўсёды, і мы не застрахаваны ад гэтага. Таму мы не павінны адмаўляцца ад тых гатовых рэчаў, якія нам трапляюцца... Нам трэба падстрахоўваць сцэнарыі. За шасцю карцінамі будучага года павінна быць 12 сцэнарыяў. Мы будзем браць сцэнарыі «збоку», пакуль мы не зможам самі зрабіць патрэбную колькасць сцэнарыяў».

Мінуў яшчэ год. На студыі абмяркоўваўся ўжо тэматычны план на 1964 год. Зноў на пасяджэнні рэдакцыйнай калегіі гучалі тыя самыя прамовы пра важнасць і патрэбнасць сцэнарнай майстэрні.

— Трэба ўсё падрыхтоўваць салідна, з пэўным планам работы, з пэўнай дысцыплінай. Я апошні час думаю аб магчымасці стварэння такой групы, якая з дня на дзень пачне працаваць. Я думаю, што такая майстэрня зможа даць 2—3 сцэнарыі ў год, напрыклад, камедыю і на рабочую тэму. А калі ў групе будзе рэдактар, рэжысёр, — гэта будзе зусім добра,—так гаварыў М. Фігуроўскі.

Гаворачы пра новы план—праграму, К. Губарэвіч зазначыў, што трэба рабіць рэдактуры і ўсім студыйным работнікам.

«1. Знаёміцца з сістэматычнымі планамі выдавецтва. Гэты пункт выкананы напалавіну. Мы мала знаёмы з планам саюзных выдавецтваў...

2. Сістэматычна чытаць беларускую і саюзную перыёдыку. Мы размеркавалі, каму што чытаць. Але пахваліцца пакуль што няма чым.

3. У беларускіх часопісах таксама пакуль нічога значнага.

4. Распрацоўка плана экранізацыі твораў беларускіх пісьменнікаў. У нас у плане ёсць «Дуб» Шамякіна. Магчыма, прыйдзе час і для «Глыбокай плыні». Мележ—другая частка трылогіі «Людзі на балоце». Брыль. Запланаваны Чарнышэвіч, Лобан — Кастрычнік у беларускай вёсцы.

Мы яшчэ не кранулі беларускую класіку.

5. Правядзенне індывідуальных гутарак з рэжысёрамі аб іх далейшых планах, перспектывах, аб далейшай працы. На жаль, рэжысёры нічога не змаглі прапанаваць. Яны цалкам спадзяюцца на сцэнарную калегію.

6. Праведзены выезды на іншыя студыі для пераймання вопыту работы сцэнарных калегій. Мы пакуль не адстаём ад іх. Яны пакуль яшчэ нічым таксама пахваліцца не могуць».

Калі чытаеш сёння гэтыя словы, міжволі ствараецца ўражанне, што час быццам спыніўся і справы па-ранейшаму стаяць на тым самым месцы. Напрыклад, з таго, што ў свой час было намечана экранізаваць, так нішто і не трапіла на экран. Па-ранейшаму рэжысёры не могуць прапанаваць сваю тэму для будучага фільма. Па-ранейшаму сцэнарная калегія «не адстае» ад тых калегій, што не могуць арганізаваць сваю работу так, каб плённыя творчыя вынікі сталі відавочнымі.

Можна было б далей дакументальна прасачыць эпапею стыхійнасці, аўралаў у рабоце сцэнарнага аддзела. Але гэта заняло б занадта многа месца. Прывядзём асобныя прыклады з выступленняў на пасяджэннях сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі.

26 ліпеня 1963 года. «Нам трэба падумаць аб тэмплане на 1965-ы і далейшыя гады... Сцэнарнага задзелу пакуль няма. Мы не можам аперыраваць нават назвамі».

9 ліпеня 1964 года. «У гэтым годзе ўсе групы, усе фільмы запушчаны ў вытворчасць адначасова. Мы перажываем страшэнна цяжкі час. Зараз усе групы ў падрыхтоўчым перыядзе і ні капейкі грошай не даюць, з-за адсутнасці грошай не можам выехаць у экспедыцыю».

Адсутнасць творчага рэзерву, стыхійнасць, выпадковасць запуску карцін адбіліся на выніках. Ад унутраных спраў студыі, ад рэдакцыйнай «кухні» перанясёмся да больш шырокага ахопу падзей. Як ацанілі ў гэты час работу студыі грамадскасць, гледачы, прэса? У канцы 1964 года «Советская Белоруссия» змяшчае перадавы — «Важнейшае з усіх мастацтваў», у якім падводзіць вынікі работы «Беларусьфільма» за апошнія гады. У артыкуле гаворыцца, што матэрыяльная база беларускай кінастудыі ўзмацнілася, што ў яе калектыў, у якім ёсць вопытныя майстры кіно, улілася здольная моладзь. Адна з пяці новых карцін, створаных у 1964 годзе, — «Масква—Генуя» — атрымала высокую ацэнку грамадскасці. І ўсё-ж «дзейнасць кінастудыі «Беларусьфільм» яшчэ не адпавядае ў поўнай меры тым высокім патрабаванням, якія партыя і народ прад'яўляюць да мастацтва... Ці не занадта вялікая дыстанцыя паміж лепшымі і «сярэднімі» фільмамі студыі «Беларусьфільм», а карацей кажучы, тымі, што пакінулі гледача раўнадушнымі?..»

Газета «Советская Белоруссия» працягвала ў тым артыкуле: «...На студыі «Беларусьфільм» не заўсёды патрабавальна адносяцца да падбору сцэнарыяў і работы над імі. Сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі трэба палепшыць работу са сцэнарыстамі, часцей прыцягваць беларускіх літаратараў да напісання твораў для кіно. Пакідае жадаць лепшага творчая абстаноўка на студыі...»

(Заўважым, што зусім нядаўна студыя чамусьці даручыла пісаць сцэнарый па кнізе С. Грахоўскага «Рудабельская рэспубліка» М. Фігуроўскаму... без згоды на тое аўтара. Сцэнарыст нават не палічыў патрэбным сустрэцца з пісьменнікам, пагутарыць. На студыю С. Грахоўскага запрасілі толькі тады, калі сцэнарый быў падрыхтаваны і трэба было юрыдычна аформіць узаемаадносіны «студыя—пісьменнік»).

І далей: «студыя пакуль яшчэ мала выпускае паўнацэнных мастацкіх карцін аб людзях сённяшняга дня, будаўніках камунізма, аб нашым слаўным рабочым класе, сялянстве. Вельмі рэдка радуе «Беларусьфільм» гледача яркімі камедыямі і прыгодніцкімі фільмамі».

Зноў жа, здаецца, быццам гэтыя словы датаваны сённяшнім днём. Далейшыя гады не ўнеслі нічога прынцыпова новага. Па-ранейшаму з усёй вастрынёй стаіць на парадку дня сцэнарная праблема, якая з'яўляецца першапрычынай, першакрыніцай усіх творчых няўдач, павітухай, хроснай маці безаблічных фільмаў.

Спашлёмся на бліжэйшы да нас час — 2 снежня 1969 года, пленум праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР.

«Нам яўна не хапае не толькі добрых сцэнарыяў, а і сцэнарыяў наогул, — сказаў на ім Ул. Корш-Саблін. — Калі студыя выпускае 5 фільмаў у год, гэта значыць, што мы павінны мець 15 дагавораў на новыя сцэнарыі. А іх у нас няма. Я гавару аб новых дагаворах, а не аб тых, якія «перапаўзаюць» з года ў год і не маюць ніякай перспектывы. Асноўная бяда ў тым, што сцэнарна-рэдакцыйная калегія не складае прадуманага, цікавага тэматычнага плана. Гэта работа павінна весціся кіраўніцтвам студыі, рэжысёрамі і пісьменнікамі. Часцей за ўсё сцэнарый заказваецца «наогул», не ўлічваецца, які рэжысёр будзе здымаць гэты фільм...»

Зразумела, кожны літаратар, нават калі ён працуе ў штаце студыі, мае права пісаць сцэнарыі. Але яго прызначылі рэдактарам, ад яго чакаюць прынцыповых ацэнак тых твораў, што запускаюцца ў вытворчасць. Ён жа, бывае, пазбаўляе сябе права на такія ацэнкі тым, што пачынае рэдактарскую дзейнасць на студыі з таго, што сам прапануе свой сцэнарый. Так было з М. Гарулёвым, Ю. Лакербая, М. Фрайманам, Ф. Коневым і іншымі. Калі фільм па іх сцэнарыях у такіх выпадках яшчэ і атрымаўся на сярэднім узроўні (а то і наогул не быў завершаны з-за нізкай якасці сцэнарыя), такі літаратар-рэдактар судзіць пра ўсё не так строга, як гэтага чакаюць ад яго. Мабыць, і такое становішча адбіваецца на атмасферы абмеркавання сцэнарыяў, хоць, паўтараем, мы далёкія ад думкі, быццам рэдактары не павінны пісаць для экрана. Толькі пісаць яны абавязаны не горш, а значна лепш за аўтараў, якія запрашаюцца сцэнарным аддзелам...

Сцэнарная праблема застаецца самай галоўнай. (Падкрэслім яшчэ раз, што тут размова ідзе толькі пра аб'яднанне мастацкіх фільмаў — у аб'яднаннях «Летапіс» і «Тэлефільм» справы ідуць больш паспяхова).

Да моманту пераходу студыі ў новае памяшканне на студыі працавалі рэжысёры старэйшага пакалення — Ул. Корш-Саблін, Л. Голуб, С. Сплашноў, І. Шульман, рэжысёры сярэдніх гадоў і больш маладыя — М. Фігуроўскі, Б. Сцяпанаў, Р. Віктараў, В. Тураў, В. Вінаградаў, Ул. Бычкоў, П. Васілеўскі.

Як склаўся іх творчы лёс, што зрабілі яны за гэтыя гады? Пра гэта мы пагаворым у наступным артыкуле.

---

Артыкул першы чытайце ў нумары за 8 студзеня 1971 года.

# Паэтычная паверка

## Міхась СТРАЛЬЦОЎ



### ГАЛОДНЫ ГОД

Яе забілі у кустах
Драўлянай ручкай ад гранаты.
Свет для яе тады прапах
Апошнім пахам блізкай хаты.

Была зусім не багацей
Ад нашых, мусіць, тая хата.
У хаце—гэтулькі ж дзяцей,
Яды—таксама небагата.

Яна—то курыца была.
Кура́ пры абскуба́ным пеўні,
Прапісаная скрай сяла
Спачатку пэўна—і няпэўна.

Няпэўнасць тую прывялі,
Зрабіўшы зло на гэтым свеце,
Міхась, яшчэ два Васілі—
Гадоў тых пасынкі і дзеці.

Яе забілі, а затым,
Хаваючыся ў чыстым полі,
Агонь палілі, плаваў дым —
Студзілі курыцу ў прыполе.

І як мне тое зразумець?
Куды схаваць, куды падзеці?
Прад успамінам чырванець?
Хай не чытаюць гэта дзеці...

### НА АЎТОБУСНАЙ СТАНЦЫІ

«Не забуду матку родну».
Шрам яшчэ вунь на шчацэ.



Між станцыйнага народу
Ён з авоськай у руцэ.

Словы тыя: «Не забуду» —
Мне у вочы, нібы дым.
А яму цяжэй: усюды
Неадлучна яны з ім.

Мо па дурасці, мо шчыра
Вывеў—горычы таўром —
Іх тады, як горад вырваў
З роднай вёскі, дзе быў дом.

Што ж цяпер? Спацехі мала.
Як сабе даруе ён,
Што вязе ў абмен на сала
Мінскай выпечкі батон?

Што і лёс не так варожыць,
Што нялёгкі матчын век,
Што забраць яе не можа,
Ды і быць пры ёй не можа,—
І сумуе чалавек.

І стаіць. Блукаюць думкі,
Твар у ранніх змаршчаках.
Ну і я стаю. Ні сумкі,
Ні авоські у руках.

●

*Паланяныцы*

Ты—сяло, і я—сяло.
Нас звяло і развяло.
Рассадзілі нас па лавах,



Злыбяда—на покуце.
Ты—са славай, я—з няславай—
Налучыць бы польку дзе?

Ах ты, полечка—трасуха,
Дождж ідзе, дарога суха!

А ў вачах кругі, кругі,
Усміхаюцца багі,
Тыя, што на покуце...

Ціха! Было гэта даўно ў нейкай
вёсцы там.

●

Яны талмудзяць і глякуюць,
У іх сабака ў доме ёсць.
Няхай пакрысе трыумфуюць...
Да іх прыходзіць раптам госць.

З якой, з якой, з якой пустыні?
Абтрос ён пыл унь з тых дарог.
Няхай вячэра ваша стыне.
Хацелі бога вы? Ёсць бог.

### ПЕРЫСТЫЯ ХМАРКІ

Паміж небам і зямлёй,
Знаны і нязнаны,
Ухарошаны сабой,
Ходзяць караваны.

Там маланка іх не б'е,
Не грымяць грымоты.
У недасягненай журбе
Выюць самалёты.

Караваны, хмаркі,—вы!
Плаваць без падману
На які злом галавы
Вам наканавана?

### ФАЛЬКЛОРНАЯ ЭКСПЕДЫЦЫЯ

— Ну й мы з табой народнікі,
Прыгоднікі—ля-ля!
Калодзежна-калоднікі
Асвера-жураўля!..
— Мацвейка, чуеш?..
Што ты—«ох»!
— Я чую, брат. А-ёй!..
Не пусціць жонка на парог...



Мал. В. ТАРАСАВА.

Забыў? Прыехалі удвох
І сталі на пастой.
— Чакай, чаму мы тут з табой?
— Абраз адзін шчэ таргаваў
І самагонку нюхаў...
— Уга, мне неставала спраў...
— Хадорчын ледзь не даў ім
плюху.
— Каб знаць, ні каліва б
не браў:
Баліць, сват, нешта галава.
— Маўчы, бо ўчуюць тыя два.
Людзей па свеце носіць,
Няведама што просяць.

На вышках тыя—там вышэй,
У клеці гэтыя—ніжэй.

— Цішэй, а то запратэстуюць,
Калі размову нашу ўчуюць!..

І праспяваў тут певень раз—
Стары, як прызба і абраз.

●

І нехта з горачкі спускаўся,
І нехта некага чакаў.
І нехта ў нечым спавядаўся,
Таму што іншага не знаў.

І я там быў, і нешта клікаў,
І тое, можа, ўсё сплыло
У свет, што стаў такі вялікі,
Што трошкі болей за сяло.

### ЭПІГРАМА

— Я выкараню глупства, —
ён сказаў.
— Глядзіце вось. А вам дзеля
расады
Аддам вярхоўе. Будзеце вы
рады...

І павырасталі там пустазелля
свечкі,
Дурныя пасвяцца і мэкаюць
авечкі.

З почты ЛіМа

## КАБ ГУЧАЛА РОДНАЕ СЛОВА...

Не так даўно давялося мне браць удзел у семінары чытальнікаў, які арганізавалі Міністэрства культуры, Белсаўпроф і Саюз пісьменнікаў БССР. Каля сарака аматараў мастацкага чытання з'ехаліся на семінар. Вельмі цікава было сабрацца разам, паслухаць выступленні сваіх калег, абмеркаваць хвалюючыя нас пытанні.

З выступленняў удзельнікаў семінара ды і са свайго вопыту магу зрабіць выснову, што многім чытальнікам бракуе майстэрства, вельмі мала у іх рэпертуары твораў беларускіх пісьменнікаў. Прычына гэтага — слабое валоданне роднай мовай.

Трэба зрабіць сур'ёзны папрок абласным дамам народнай творчасці і абласным камітэтам прафсаюзаў, якія фармальна падышлі да адбору ўдзельнікаў, і таму сёй-той трапіў выпадкова, хто не меў ніякага дачынення да мастацкага чытання. Якая будзе карысць ад таго, што яны прасядзелі шэсць дзён? Ніякай, бо ў мастацкай самадзейнасці яны не ўдзельнічаюць.

Шаснаццаць гадоў выступаю я на сцэне. Не раз быў дыпламантам рэспубліканскага агляду, маю нейкі ўжо вопыт, але на гэтым семінары многаму навучыўся, узбагаціў свой рэпертуар. Пажадана, каб і ў далейшым не забываліся на нас і наладжвалі такія сустрэчы часцей. Мы будзем вельмі ўдзячны.

М. ДЗЯРКАЧ,
выкладчык Магілёўскага медыцынскага вучылішча.

## НА КАРЫСЦЬ СПРАВЕ

Кнігі нашага беларускага выдавецтва «Вышэйшая школа» карыстаюцца ў краіне шырокай вядомасцю. Абмяжуюся найбольш выдатнымі выданнямі апошняга часу. Гэта «Беларуская казка» Л. Барага, «Выразнае чытанне» (з альбомам грампласцінак) А. Каляды, «Беларускі фальклор. Хрэстаматыя», «Гісторыя архітэктуры Беларусі» У. Чантурыі і іншыя. Але наспеў час перамяніць назву выдавецтва. Па-першае, гэтая назва робіць выдавецтва блізняткам маскоўскай «Высшей школы» і ўкраінскага «Вищай школы». Братэрства — справа добрая, але ў дадзеным выпадку роднасць назваў блытае чытача, карэспандэнтаў, аўтараў, уводзіць іх у памылковую думку, што наша выдавецтва з'яўляецца філіялам маскоўскага. Па-другое, і гэта галоўнае, назва «Вышэйшая школа» не адпавядае зместу работы выдавецтва. Сапраўды, паняцце «Вышэйшая школа» распаўсюджваецца на вышэйшыя навучальныя ўстановы. Але ж выдавецтва выдае падручнікі і для студэнтаў тэхнікумаў і для навучэнцаў прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў, выдае дапаможнікі агульнага карыстання («Машынапіс», «Стэнаграфія») і літаратуру для павышэння кваліфікацыі.

На маю думку, выдавецтва лепш было б назваць «Адукацыя». Гэтая назва лепш раскрывае змест і напрамак дзейнасці выдавецтва, ахоплівае ўсе віды вучэбнай літаратуры, акрамя школьнай (якую выдае «Народная асвета»). Па-другое, іншага выдавецтва з такой назвай нідзе няма.

Магчыма нехта прапануе лепшую назву. І гэта будзе добра. Галоўнае, каб была карысць справе.

К. ТАРАСАЎ,
журналіст.

*З ГІСТОРЫІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ*

## ПІСЬМЕННІК І ПЕРАКЛАДЧЫК З ЛАГОЙШЧЫНЫ

У маляўнічай мясцовасці, у мястэчку Гайна на Лагойшчыне, у сям'і уніяцкага парафіяльнага свяшчэнніка нарадзіўся ў 1793 годзе вядомы пісьменнік і перакладчык на польскую мову твораў Байрана, а таксама старажытных грэчаскіх і рымскіх аўтараў Ігнат Шыдлоўскі.

Пасля заканчэння Мінскай гімназіі ён вучыўся ў Віленскім універсітэце, дзе грунтоўна авалодаў лацінскай і французскай мовамі, на якіх свабодна пісаў і размаўляў. Атрымаўшы пасля заканчэння універсітэта званне магістра філасофіі, быў накіраваны на педагагічную работу ў Свіслацкую гімназію, дзе выкладаў паэтыку, рыторыку і гісторыю літаратуры. Пазней ён быў пераведзены для выкладання тых жа прадметаў у Віленскі універсітэт. З гэтага часу ён і заняўся літаратурнай працай.

Яго пяру належыць мноства ўласных твораў і перакладаў. Яны друкаваліся амаль ва ўсіх тагачасных перыядычных выданнях: «Кур'ер Літэўскі», «Тыгоднік Віленьскі», «Дзеннік Віленьскі», «Газета літэрацка Віленьска» і інш.

Сярод яго спадчыны найбольшую цікавасць уяўляюць «Вясельныя абрады вясковага люду Гаінскай парафіі ў 1800—1802 гг. у суправаджэнні з песнямі», змешчаныя на польскай мове ў часопісе «Тыгоднік Віленьскі» ў 1819 годзе.

Займаўся І. Шыдлоўскі і выдавецкай справай. Так, у 1829 годзе ён выдаў «Лацінскія ўрокі літаратуры і маралі, або зборы прозы і вершаў вядомых старажытных лацінскіх аўтараў». З 1834 года ён узначаліў працу па выданні зборнікаў «Малюнкі і навуковыя дыскусіі», якіх было адрэдагавана 64 тамы.



І. Шыдлоўскі быў адным з актыўных членаў Таварыства шубраўцаў у Вільні, да якога належалі многія прагрэсіўныя дзеячы навукі, культуры і мастацтва Польшчы, Літвы і Беларусі. Мэтай таварыства было выхаванне моладзі ў «здаровым духу». У часопісе «Ведамасці з вуліцы», які выдаваўся таварыствам, выпраўляліся скажоныя ўяўленні людзей, высмейваліся іх дрэнныя ўчынкі і паводзіны, асуджалася махлярства, п'янства, разбэшчанасць, благое абыходжанне з сялянамі, нізкапаклонства перад усім замежным, перш за ўсё французаманія.

Жыць і працаваць І. Шыдлоўскаму давялося ў такі час, калі пануючыя класы пагардліва адносіліся да беларускай культуры і мастацтва, ён зведаў на сабе шматлікія папрокі і крыўды. Знясілены працай, не маючы падтрымкі з боку мясцовых улад, пісьменнік памірае ў адзіноце і нястачы на 53-м годзе жыцця — 28 лютага 1846 года.

Яго творы з'яўляюцца цяпер вялікай рэдкасцю і захоўваюцца ў аддзелах рэдкай кнігі бібліятэк Вільнюса і Львова, Масквы і Ленінграда. Спадчына яго застаецца мала даследаванай. А шкада. Ігнат Шыдлоўскі пакінуў значны след у развіцці літаратуры і мастацтва роднага краю.

С. АКУЛІЧ.

# З ДАРОГ ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ

НАДЗВЫЧАЙ актыўна і плённа апошнія пятнаццаць гадоў працуе ў літаратуры паэт Сяргей Грахоўскі. А між тым яго творчасць яшчэ недастаткова разгледжана крытыкай. Што і казаць, такі лёс напаткаў у літаратуры не аднаго С. Грахоўскага. Колькі пісьменнікаў «добрых і розных» яшчэ чакаюць грунтоўнага крытычнага разгляду сваёй творчасці.

Можа гэта ад таго, што наша крытыка мала цікавіцца сучасным літаратурным працэсам? Дык не ж! Колькі імклівых бурапенных хваль заўважыла яна на вірлівай паверхні паэтычнай плыні, колькі выдала прагнозаў, абяцаючы ў хуткім часе новую літаратурную паводку, непаўторную па глыбіні, напору, адметную па фарбах і гуках.

Здаецца, паводка скончылася. У рэчышча роднай паэзіі сапраўды ўліліся свежыя маладыя сілы, паэтычная плынь усталявалася ў берагах, вызначаных самім жыццём, а творцы, якім прарочылі сказаць новае слова ў літаратуры, і самі пераканаліся, што сказаць яго можна толькі дасканала авалодаўшы вопытам сваіх папярэднікаў. А гэтага не зробіш у завоблачных сферах. Гэта можна зрабіць там, дзе ўсё, —ад крынічнай ручаінкі да старажытнай пушчы, — гаворыць роднаю мовай.

У маладых пісьменнікаў, што сур'ёзна ставяцца да літаратуры, пачала пакрысе знікаць юнацкая паблажлівасць і лёгкадумнасць у ацэнках творчасці тых, хто не адзін год нясе самастойна нялёгкі цяжар літаратурных клопатаў і не імкнецца патрапіць густам хуткаплыннай моды, якая часам, падфарбоўваючыся, выдае сябе за надзённасць.

С. Грахоўскі якраз адносіцца да ліку тых пісьменнікаў, чыя творчасць абвяргае «сезоннасць» у літаратуры, трывала грунтуецца на жыццёвай аснове і ўласным жыццёвым вопыце аўтара.

Новы зборнік вершаў паэта склалі тры раздзелы: «З дарогі ў дарогу», «Характары», «Позняя вясна». Асобнае месца, хаця яна і ўключана ў першы раздзел, займае «Паэма дарог».

С. Грахоўскага, як мастака слова, цікавяць перш за ўсё маральна-этычная праблематыка сучаснасці, праявы жыцця ў штодзённых іх пераўтварэннях. Творчасць паэта цесна перапляласся з яго ўласным лёсам.

Некалі Бадлер задаваў пытанне: «Ці ўсе, хто піша пра дабрачыннасць, самі з'яўляюцца дабрачыннымі, каб прымусіць іншых палюбіць дабрачыннасць?» Ёсць у С. Грахоўскага ў кнізе «Тры вымярэнні» верш «Душа». У ім паэт, зведаўшы цяжкія жыццёвыя нягоды, глыбока раскрыў сутнасць сваёй веры ў жыццесцвярджальны пачатак рэчаіснасці. Гэтая добрая якасць спадарожнічае паэту і ў новых вершах:

Калі прыходзіць
неспадзеўна сталасць,
Каб не блукаць паміж
дабром і злом,
Прайдзі выпрабаванне
на трываласць,
На непахіснасць, на
разрыў, на злом.

Уласны жыццёвы вопыт— гэта падмурак, на якім грунтуецца добрая і чалавечная паэзія С. Грахоўскага. Лірычны герой яго паэзіі — чалавек мужны, загартаваны: «Нам пройдзеных дарог не перамераць і нанава нікому не прайсці. Я іх прайшоў і навучыўся верыць у праўду, найвышэйшую ў жыцці».

У паэта ясна акрэсленае разуменне перспектыў будучыні і гэта надае яго творчасці аптымістычны, баявы характар. Верш яго — сэнсава выразны, плаўны, то ўрачыста-звонкі, то задуменна-трывожны, нават часам празаічны, прываблівае шчырасцю інтанацый, напоўненасцю адпаведнай думкай.

У новым зборніку вершаў С. Грахоўскага «Паэма дарог» выявілася яшчэ адна рыса таленту паэта: уменне ствараць маштабныя, рэльефныя вобразы, цікавыя малюнкі эканомнымі сродкамі:

На Беларусі яблыкі паспелі
І глуха асыпаюцца на дол,
А па дарогах коцяцца
вяселлі,
Гудзе зямля, нібы
святочны стол.
(«Яблыкі» ).

Паэт, які часам бывае неашчадным у выбары і выкарыстанні выяўленчых сродкаў, якому часам замінае шматслоўе, у новым зборніку паказаў, што валодае майстэрствам вывесці рэальнасць у план шырокіх абагульненняў, дамагчыся добрай напоўненасці паэтычнага радка. Вось страфа з «Паэмы дарог»:

Змяняліся арлы, мундзіры,
канты,
Канфедэраткі, каскі,
шышакі:
Па-рознаму гарлалі
акупанты,
Аднолькава стагналі
мужыкі.

Шкада, што такіх мясцін у «Паэме дарог» не дужа многа. Імкненне да шырокага ахопу падзей, да эпічнасці, на жаль, не прынесла аўтару поспеху. «Паэма дарог» атрымалася творам інфармацыйным, без глыбокага даследавання характару людзей і тых гістарычных змен, пра якія ідзе ў ім гаворка.

Больш удаецца сказаць С. Грахоўскаму ў жанры верша — лірычнага, сюжэтнага, публіцыстычнага. Тут паэт, які сам прызнаецца, што піша «ў традыцыйным стылі», валодае майстэрствам выказаць праз слова складаныя праблемы нашага часу, прымушае слова ваблішчэць прывабным бляскам.

Цяжка нават прыгадаць паэта, які б у сваёй творчасці не звяртаўся да вечнай тэмы — да першастваральнікаў вялікага зямнога таінства — хлеба. Здаецца, немагчыма нават знайсці нешта новае ў гэтай тэме. Паэт звярнуўся да яе, звярнуўся па-сучаснаму востра, публіцыстычна. І верш «Вышэйшы чын» не пакідае раўнадушным чытача. Паэт гаворыць пра хлебароба:

Не паддаваўся ты хваробам
І не прасіўся на спачын,
Таму што званне
хлебароба—
Твой вечны і вышэйшы
чын.
Ты чуў парады і загады,
Ды не спяшаўся іх
прыняць,
Бо не маглі з тваёй пасады
Цябе ні вылучыць, ні
зняць.

Глыбока адчувае С. Грахоўскі сваю сувязь з людзьмі працы, даражыць маральнай чысцінёй чалавечых адносін. Яснасць творчай манеры, пільная назіральнасць робяць яго паэзію блізкай і зразумелай чытачам рознага ўзросту.

«Мяне, як на прадвесні жураўля, дадому кліча родная зямля» — прызнаецца паэт у вершы «Кліча вясна». Гэтая цяга да пазнання навакольнага свету, гэты зямны непакой адчуваюцца амаль ва ўсіх вершах новай паэтычнай кнігі С. Грахоўскага.

Яна шматпланавая, гэтая кніга. У ёй змешчаны вершы, прысвечаныя У. І. Леніну (трыпціх «Тры старонкі»), вершы, што нарадзіліся ў выніку падарожжаў паэта па краіне і за мяжу («Дзеці Паміра», «На Сібірскім тракце», «Інгела», «Чужая вясна» і інш.), сатырычныя вершы, аб'яднаныя ў цыкл «Характары» і вершы-споведзі «пра час і пра сябе».

С. Грахоўскі валодае актыўнай успрымальнасцю жыцця, піша многа. Не ўсе вершы ў зборніку «Паэма дарог» раўназначныя па мастацкіх якасцях, але яго паэзія хвалюе сваёй страснасцю, жыццесцвярджальнасцю. Паэт піша ясна, проста, зразумела. Як бы ў падтрымку аўтарскай пазіцыі гучаць радкі з верша «Венера».

Мяняюцца напрамкі і
манеры
І новыя з'яўляюцца
штодня,
Ды толькі не мяняецца
Венеры
Святая прыгажосць і
чысціня.

Так, сапраўды Венера не мяняецца. Але ці застаюцца нязменнымі да яе адносіны людзей розных эпох і пакаленняў? Найвышэйшыя маральна-эстэтычныя здабыткі мінулых пакаленняў, боль і пакуты мінулага асядаюць і на сэрцы нашых сучаснікаў, на нашы сэрцы. І ўяўленне наша трошкі іншае аб Венеры, чым, скажам, у людзей мінулага стагоддзя.

Таму хочацца параіць паэту большага творчага паглыблення ў жыццёвыя з'явы, больш той «мудрасці», пра якую сам паэт гаворыць у вершы «Аснова».

Стала даволі распаўсюджаным, нават модным, паняцце інтэлектуальнасці паэзіі (дарэчы, гэтым удала карыстаюцца няўдалыя вершатворцы). Але як ні кажыце, сапраўдны мастак быў і будзе духоўна-багатым, інтэлектуальным. Доказ гэтаму — лепшыя вершы С. Грахоўскага: «Хвіліна маўчання», «Каршун», «Бяссмерце зерня», «Адказ», «Рэха», «Патухне сонца толькі для мяне...», «Ты помніш чэрвеньскія ночы» і інш.

С. Грахоўскі — паэт сталы. Даваць яму канкрэтныя парады не выпадае. Паэтычны талент і ўсведамленне сваёй адказнасці перад чытачом будзе зарукай таго, што мы яшчэ не раз далучымся да шырокага, шматграннага і духоўна багатага свету паэзіі С. Грахоўскага.

Анатоль ГРАЧАНІКАЎ.

Сяргей Грахоўскі. «Паэма дарог». Выдавецтва «Беларусь». 1970.

# СЯБРУЮЦЬ РАВЕСНІЦЫ-МУЗЫ

У ВЫДАВЕЦТВЕ «Беларусь» выйшаў зборнік нарысаў Валянціна Лукшы «Дзесяць дарог да чароўнага». Аматарам мастацтва і літаратуры добра знаёмы імёны людзей, якія сталі героямі гэтай кніжкі. Гэта — кампазітары Ігар Лучанок, Кім Цесакоў, Рычард Буцвілоўскі, скульптар Генадзь Мурамцаў, спявак Валерый Кучынскі, галоўны архітэктар Наваполацка Усевалад Ізергін, паэт Рыгор Барадулін, харавік —дырыжор Уладзімір Журовіч, кінарэжысёр Ігар Дабралюбаў, артыст Дзяржаўнага народнага хору Васіль Варановіч. Таму, думаецца нам, многія з цікавасцю прачытаюць яе, каб пашырыць сваё ўяўленне аб людзях творчай прафесіі, далучыцца да іх духоўнага свету, пранікнуцца іх турботамі, хваляваннямі, парадавацца разам з імі іх творчым здабыткам і здзяйсненням, адчуць іх прагу да новых пошукаў і адкрыццяў.

Трэба сказаць, што зборнік В. Лукшы «Дзесяць дарог да чароўнага» — бадай, першая кніга пра маладых майстроў літаратуры і мастацтва, пра іх творчы шлях, пра іх творчыя дасягненні.

З кожным героем нарысаў аўтар не толькі знаёмы, але, як пра гэта сведчыць кніжка, знаходзіцца ў сяброўскіх і таварыскіх адносінах. Адсюль і тая багатая дасведчанасць у іх справах, і глыбокая павага да іх, і шчырая зацікаўленасць іх працай.

В. Лукша спрабуе (і гэта яму часам удаецца) прасачыць рост і станаўленне творчай індывідуальнасці мастака, акрэсліць яго памкненні, перадаць змест і напрамак яго пошуку. Усім ходам апавядання сцвярджаецца думка пра тое, што ў нас не загіне талент, не затрэцца ў паўсядзённай прозе жыцця, у якім бы «глыбінным» куточку рэспублікі ён не з'явіўся. Прыкмецілі ж Васіля Варановіча — здольнага і абяцаючага юнака з Лельчыц, дапамаглі яму на сталічнай сцэне развіць артыстычныя задаткі, удасканаліць сваё майстэрства. Аўтар спыняе нашу ўвагу і на тым, з якой цеплынёй і бацькоўскім клопатам ставяцца старэйшыя майстры мастацтва Беларусі да маладых талентаў, як ашчадна і беражліва адносяцца яны да кожнай праявы самабытнага і арыгінальнага, як ахвотна перадаюць свой багаты творчы вопыт маладому пакаленню.

Найбольш удалымі атрымаліся нарысы «Песня застаецца з чалавекам» — пра І. Лучанка, з якім В. Лукша напісаў папулярную маладзёжную песню «Стаяць на рэйдзе нашы брыганціны», «Калі ў ветразях неспакой» — пра В. Кучынскага, «Сняцца блакітныя гарады» — пра У. Ізергіна, «Бацькоўскіх крыніц перазовы» — пра Р. Барадуліна.

Хораша і задушэўна гаворыць пра іх В. Лукша. Прачытаўшы гэту кніжку, мы ўзбагацімся новымі звесткамі аб маладых мастаках слова, сцэны, музыкі, кіно, даведаемся пра іх планы, над ажыццяўленнем якіх яны цяпер заняты. Юныя чытачы, і ў першую чаргу моладзь, сённяшнія школьнікі, якія стаяць на парозе самастойнага жыцця, перад выбарам будучай прафесіі, могуць скласці для сябе пэўнае ўяўленне аб людзях творчай прафесіі, аб іх нялёгкай, але напоўненай хвалюючымі хвілінамі адкрыцця працы.

Кніга «Дзесяць дарог да чароўнага» сваім з'яўленнем у многім абавязана творчай нарадзе маладых майстроў літаратуры і мастацтва, якая праходзіла тры гады таму назад на Свіцязі. Там адбыліся не толькі абмен думкамі і меркаваннямі аб стане нашага мастацтва і літаратуры, а і асабістыя знаёмствы творцаў (у тым ліку і аўтара гэтай кніжкі), якія да той пары ведалі адзін пра аднаго пераважна па друку, тэлебачанні, тэатры, кінастужках.

Усё ж, адзначаючы тое добрае і станоўчае, што спадабалася ў кнізе, запала ў душу, мы не можам не сказаць і пра недахопы, якіх пры ўважлівым рэдагаванні, магло б і не быць.

Так, напрыклад, на некаторых нарысах ляжыць адбітак паспешлівасці. Бо чым жа іншым можна растлумачыць такія, скажам, паўторы амаль адных і тых жа лірычных запеваў у пачатку нарысаў «Людзям— шчодрасць сэрца» і «Бацькоўскіх крыніц перазовы». У першым чытаем: «Чмель шчыруе над галоўкай канюшыны». У другім: «Шчыраваў чмель над чырвонай, як напалены вугаль, галоўкай канюшыны». Вобраз сам па сабе цікавы, але дзеля чаго займацца варыяцыямі яго? Далей. У першым: «Быццам жоўты парасон, гойдаецца ў залацістым акіяне збажыны пыл...» У другім — «Над пляцоўкай, нібы жоўты парасон, вісеў гаркаваты пыл».

А вось канцоўкі нарысаў «Песня застаецца з чалавекам» і «Крылы песні — мелодыі». У першым чытаем: «На чорным паркалі неба загараюцца мірыяды жаўцюткіх зорачак», у другім: «Калі на мінскіх вуліцах запальваюцца мірыяды агнёў...» **«Не памылюся», «не будзе перабольшаннем», «хвароба творчага застою», «а ці не будзе пасля гэтага творчага застою!..»** —такія рытарычныя сказы не ўпрыгожваюць кнігу, як і тыя шматлікія пералікі ганаровых званняў і грамат, што атрымлівалі героі і што, на думку аўтара, павінна нас пераканаць у тым, якія гэта людзі адметныя і таленавітыя. Пераконваешся ў гэтым толькі тады, калі Валянцін Лукша расказваў не пра заслугі людзей творчай прафесіі, а пра тое, **як** яны ішлі, пераадольваючы цяжкасці, да прызнання, да самасцвярджэння ў мастацтве і літаратуры.

В. ПОЛЯК.

В. Лукша. «Дзесяць дарог да чароўнага». Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1970.







# СУВЕНІРЫ. 1971

**Далёка за межамі нашай рэспублікі вядомы мастацкія сувеніры, створаныя на Брэсцкай фабрыцы, якая займаецца іх вырабам, аб'ядноўваючы вакол сябе мастакоў-прафесіяналаў і народных умельцаў. Прадукцыя фабрыкі налічвае сёння больш ста пяцідзесяці ўзораў розных сувенірных вырабаў. Работы яе майстроў пабывалі на выстаўках у ГДР, Фінляндыі, Даніі, Японіі, Канадзе, ва ўсіх братніх рэспубліках нашай краіны.**

**Сёлета аматары сувеніраў здолеюць набыць новыя мастацкія вырабы Брэсцкай фабрыкі, у аснову выпрацоўкі якіх пакладзены народныя палескія роспісы, у тым ліку славутыя роспісы «агоўскіх куфраў» Іванаўскага раёна.**

**Прапануем вашай увазе некаторыя з новых сувеніраў: дэкаратыўныя насценныя талеркі Я. Люблева (першы і другі здымкі), інкруставаныя шкатулкі Н. Пачынавай і Ул. Басалыгі (трэці), інкруставаныя талеркі Ул. Басалыгі (чацвёрты) і Н. Пачынавай (пяты).**





*БЕЛАРУСЬ НАВУКОВАЯ*

# ПРЫГАЖОСЦЬ— ПРЫКМЕТА ДАСКАНАЛАСЦІ

У РАМАНЕ Данііла Граніна «Шукальнікі» ёсць такі эпізод: група інжынераў канструіруе новы лакатар. Помніце, калі лакатар пачаў дзейнічаць, Андрэй Лабанаў—яго галоўны канструктар — загадаў разабраць установку? Чаму? Лакатар атрымаўся такі нязграбны, што на яго прыкра было глядзець. Андрэй разумеў— у тэхніцы прыгажосць — прыкмета сталасці.

Прыгажосць і тэхнічная дасканаласць. Гадоў сто, нават пяцьдзесят таму гэтыя паняцці існавалі паасобку, не дапасоўваючыся адно да аднаго. Людзі былі задаволены ўжо тым, што аўтамабіль едзе «сам», машына «сама» шые, а нязграбная, груваcткая музычная скрынка «сама» іграе.

Тэхнічная рэвалюцыя адбілася і на форме. Аптымальная форма. Якая яна? Купляючы, скажам, халадзільнік або тэлевізар, вы звернеце ўвагу не толькі на тое, як ён працуе, але і на яго вонкавы выгляд, на тое, як ён «упішацца» ў вашу кватэру. Пошукамі аптымальных форм у тэхніцы займаецца тэхнічная эстэтыка. Сёння ні адно прадпрыемства не можа абысціся без мастака-канструктара.

Каля пяці гадоў існуе Беларускі філіял Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута тэхнічнай эстэтыкі ў Мінску.

Давайце пройдзем па паверхах прыгожага будынка інстытута і пазнаёмімся з яго аддзеламі.

Адразу ж пры ўваходзе вы трапляеце ў прасторную светлую залу са шкляной сцяной. Тут экспануюцца прамысловыя вырабы рэспублікі, а таксама многіх замежных фірм.

Пакоі на другім паверсе нагадваюць невялічкія цэхі або майстэрні: такарную, шліфавальную, сталярную. Настольныя лямпы, таршэры, дзіцячыя возікі ці трактарныя кабіны, што нараджаюцца ў кабінетах інстытута як ўзоры ў адным экземпляры, магчыма, заўтра пойдуць у серыйную вытворчасць.

Яшчэ вышэй размешчаны адміністрацыйны, планава-эканамічны аддзелы і аддзел тэхнічнай інфармацыі. Апрацоўкай навін тэхнічнай інфармацыі, занатоўваннем навуковых артыкулаў па праблемах тэхнічнай эстэтыкі і мастацкага канструявання айчынных і зарубежных аўтараў — заняты работнікі гэтага аддзела.

Салідны архіў і вялікая бібліятэка спецыяльнай літаратуры захоўваюць усё самае цікавае з таго, што паявілася за апошні час у новай навуцы.

Асноўны аддзел — гэта аддзел мастацкага канструявання. Дакладней кажучы, не адзін, а тры аддзелы, кожны з якіх займаецца канструяваннем розных прамысловых вырабаў. Ёсць група «трактарыстаў», якія працуюць над стварэннем новага аблічча сельскагаспадарчых машын, група, што працуе над тэхнічнай эстэтыкай прамысловага абсталявання, канструктары па інтэр'еры.

Якіх толькі прафесій тут не сустрэнеш! Канструктары, мастакі, архітэктары, інжынеры розных профіляў, фізіёлагі, гігіеністы і г. д...

Каб зразумець, чаму тут, у адным інстытуце, працуюць людзі розных прафесій, трэба, мабыць, зрабіць невялічкае адступленне.

Мастак-канструктар або, як яго прынята называць, дызайнер, займаецца не «ўпрыгожваннем» гатовай машыны, ці станка. Дызайнер адказвае за тое, каб гэты станок быў зручны, адпавядаў свайму прызначэнню (быў «функцыянальны»), і дапасоўваўся да асяроддзя, дзе ён будзе выкарыстоўвацца. І нарэшце, дызайнер адказвае за вонкавы выгляд, за прыгажосць рэчы.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Праектуючы новую машыну, новую рэч, дызайнер павінен улічваць і тэхналогію, і арганізацыю працы на прадпрыемстве. Таму яму патрэбна рэкамендацыя, парада фізіёлага, псіхолага, гігіеніста.

Так, напрыклад, колер станка ці машыны дызайнер вызначае не адвольна, зыходзячы са свайго густу, а абапіраючыся на дасягненні розных навук, якія займаюцца вывучэннем псіхалагічных, эмацыянальных, фізіялагічных рэакцый чалавека на навакольнае асяроддзе.

У адной школе вучням прапанавалі рашыць задачу па геаметрыі. Ім былі раздадзены ўмовы гэтай задачы, надрукаваныя на паперы розных колераў: чырвонай, белай, зялёнай. «Чырвоная» група зрабіла нечакана многа памылак, «белая» — менш, «зялёная»— памылак амаль не зрабіла. Вось такі «зялёны фон» і ствараюць дызайнеру фізіёлаг, псіхолаг, гігіеніст...

Усё гэта, так сказаць, агульныя прынцыпы работы дызайнераў, тэмы ж іх канструктарскіх распрацовак самыя розныя. Гэта і распрацоўка стылявога адзінства вонкавага выгляду сельскагаспадарчых машын, што выпускаюцца ў нашай краіне, і уніфікацыя канструкцыі прадоўжна-рэжучага станка, і стварэнне зручнага, прыгожага, эрганамічнага, як тут кажуць, крэсла.

За чатыры гады ў інстытуце зроблена нямала навуковых даследаванняў і цікавых канструктарскіх распрацовак.

Варта назваць хоць бы адну з апошніх: «Распрацоўка зоны адпачынку ў мікрараёне сучаснага горада». Яна, відаць, блізкая і зразумелая тысячам гараджан. Альбо, скажам, стварэнне зручнай, трывалай, прыгожай кабіны трактара. Такая кабіна, распрацаваная для Волгаградскага трактарнага завода, была прынята заказчыкам з адзнакай «выдатна». Як заўважыў чытач, мы больш гаворым пра канструктараў, хоць інстытут навукова-даследчы. Такая яго спецыфіка, хоць ёсць тут, вядома, навуковы аддзел. Ён займаецца сацыяльна-інжынерна-псіхалагічнымі і фізіялагічнымі даследаваннямі.

Мінчане, напэўна, бачылі паштовыя канверты, на якіх надрукавана рамка з контурнымі ячэйкамі для лічбаў. Пэўны набор такіх лічбаў складзе індэкс, які заменіць назву рэспублікі, горада, вёскі, вуліцы, нумар паштовага аддзялення. Адным словам, у шасці лічбах будзе зашыфраваны амаль поўны ваш адрас.

Варта мусіць было б расказаць і пра тое, якая карпатлівая, грунтоўная, а часам трохі нудная работа папярэднічала гэтаму нававядзенню, якое, дзякуючы замене тысяч сартыроўшчыц машынамі, сэканоміць дзяржаве мільёны рублёў і паскорыць дастаўку карэспандэнцыі.

Дзеля гэтага супрацоўнікі навуковага аддзела інстытута правялі дзесяткі тысяч доследаў па вывучэнні почырку і формы напісання лічбаў людзьмі розных узростаў, прафесій, нацыянальнасцей. Толькі пасля гэтага Міністэрству сувязі СССР былі дадзены навукова абгрунтаваныя рэкамендацыі.

Тэма новага даследавання — «Сацыяльна-псіхалагічныя праблемы тэхнічнай эстэтыкі».

Успрыняцце чалавекам прыгожага, крытэрый ацэнкі эстэтычнага, тое, чым вызначаецца попыт пакупнікоў — вось толькі некаторыя пытанні, на якія павінны даць адказ навуковыя супрацоўнікі інстытута.

У кароткім рэпартажы немагчыма ахапіць усе праблемы, якімі заняты інстытут, немагчыма нават абысці ўсе яго кабінеты і лабараторыі. Асобнай размовы заслугоўвае, напрыклад, асартыментны кабінет, які з'яўляецца своеасаблівай выстаўкай ўзораў абівачных матэрыялаў, сабраных з прадпрыемстваў усёй краіны.

Мы не закранулі і тых вялікіх, складаных, часам спрэчных праблем навуковага, вытворчага і эканамічнага парадку, якія стаяць перад калектывам і якія штодзень нараджаюцца.

Сур'ёзная, грунтоўная размова пра ўсе гэтыя праблемы—наперадзе. Будзем спадзявацца, што наша сустрэча з інстытутам была не апошняй.

**Р. БАКУНОВІЧ.**

# МІХАІЛ ІВАНАВІЧ ДЗЯНІСАЎ



Беларускае тэатральнае мастацтва панесла вялікую страту. На 71 годзе жыцця раптоўна памёр народны артыст БССР Міхаіл Іванавіч Дзянісаў.

М. І. Дзянісаў нарадзіўся ў 1900 годзе ў сяле Трасцінка былой Саратаўскай губерні ў сям'і селяніна. У гады грамадзянскай вайны ён уступіў добраахвотнікам у Чырвоную Армію. З 1925 па 1929 г. вучыўся ў Саратаўскай кансерваторыі, у 1930 — 1933 гг. займаўся ў беларускай опернай студыі. Пасля адкрыцця ў 1933 годзе на базе гэтай студыі тэатра оперы і балета БССР М. І. Дзянісаў стаў яго вядучым салістам, звязаўшы сваё творчае жыццё з гэтым калектывам.

На сцэне Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР М. І. Дзянісаў стварыў цэлы шэраг яркіх вобразаў і сярод іх Яўгеній Анегін у аднайменнай оперы П. Чайкоўскага, Гразной у «Царскай нявесце» М. Рымскага-Корсакава, Жармон у «Травіяце» і Рыгалета ў аднайменнай оперы Дж. Вердзі, Эскамільё ў «Кармэн» Ж. Бізэ, Ігар у оперы А. Барадзіна «Князь Ігар», Дэман у аднайменнай оперы А. Рубінштэйна, Змітрок Закрэўскі ў «Міхасі Падгорным», Апанас у «Алесі» Я. Цікоцкага, Кузьміч «У пушчах Палесся» А. Багатырова, Андрэй у «Кветцы шчасця» А. Туранкова, Кастусь Каліноўскі ў аднайменнай оперы Д. Лукаса.

Многа сілы аддаў М. І. Дзянісаў выхаванню маладой творчай змены, з'яўляючыся педагогам Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага.

Шматгадовая творчая дзейнасць М. І. Дзянісава — артыста, грамадзяніна, камуніста высока ацэнена партыяй і ўрадам. Ён узнагароджан двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга і медалямі.

Светлая памяць аб М. І. Дзянісаве надоўга захаваецца ў сэрцах усіх, хто ведаў яго, быў паклоннікам яго яркага таленту.

**Міністэрства культуры Беларускай ССР.**
**Прэзідыум праўлення Беларускага тэатральнага таварыства.**
**Дзяржаўны ордэна Леніна акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета БССР.**

## СЛОВА СМУТКУ

**Мы пачыналі разам. Спачатку — у Мінскім музычным тэхнікуме, потым у Беларускай опернай студыі, якая з часам ператварылася ў Вялікі тэатр оперы і балета.**

**Міхаіл Іванавіч Дзянісаў быў з намі тады, калі традыцыі беларускай оперы, як тэатральнага арганізму, толькі нараджаліся. І тут яго вясёлы і шчыры характар быў такім неабходным! Сяброўская атмасфера, якая заўсёды панавала за кулісамі на спектаклі з удзелам гэтага артыста, мабыць, і дапамагала нам жыць адчуваннем свята.**

**Ён быў з тых людзей, якія ўмеюць уносіць прамень сонца нават у самыя звычайныя будні. Яго няма, але нешта пакінутае ім у нормах жыцця беларускай оперы будзе доўга перадавацца з пакалення ў пакаленне.**

**Бывай, дарагі Міхаіл Іванавіч!..**

**Соф'я ДРУКЕР,**
**народная артыстка БССР.**

●

**Саюз кампазітараў БССР глыбока смуткуе з прычыны раптоўнай смерці народнага артыста БССР Міхаіла Іванавіча ДЗЯНІСАВА і выказвае глыбокае спачуванне сям'і, сябрам і блізкім нябожчыка.**

лёка не ўсе з іх «працуюць» на знаёмы нам з кнігі вобраз. Глядач, як кажуць, «не пазнае» вядомую Пэпі...

Безумоўна, Л. Тарасава — рэжысёр, бясспрэчна, цікавы. Яе маленькія прыдумкі забаўныя і дасціпныя. То паліцэйскі пры словах Стэфансена «я ненавіджу дзяцей» спачувальна казырае яму. То фрэкен Розенблюм прапануе Пэпі напісаць рашэнне задачы, а тая — абсалютна ўпэўненая, што гэта і ёсць «рашэнне», — малюе хлопчыка і дзяўчынку, пра якіх ідзе гаворка ў гэтай задачы.

Рэжысёру ўдалося стварыць і акцёрскі ансамбль, калі не бездакорны, дык даволі зладжаны, што, дарэчы, здараецца ў тэатры юнага гледача не так часта. А артысты М. Пятроў і В. Урагаў — Крошка Блом і Граміла Карл наогул парадавалі нас вясёлым запалам сваіх гарэзлівых герояў, сваім акцёрскім захапленнем жыццём, як гульнёй, поўнай выдумак і нечаканасцей. Пагоня іх за «скарбам» Пэпі ўспрымаецца не як прагнасць, а як пагоня за незвычайнымі прыгодамі. Ім верыш нават тады, калі яны не засмучаюцца, даведаўшыся, што ў «таямнічым» чамадане Пэпі толькі папяровыя фанцікі...

Забаўляць — мэта п'есы і спектакля. Аснова сюжэта тут — цырк з яго клаунадай, а здарэнні з Пэпі — зачэпка для дадатковых клаунад. Мы зусім не супраць таго, што спектакль смешны: такім ён і павінен быць (і ўжо зусім, не дай нам божа, убачыць у ім ці яшчэ дзе-небудзь паслухмяную, прыкладную і «цалкам станоўчую» Пэпі!). Хвалюе, што міжволі спектакль набывае нядобрую мэтанакіраванасць, ужо незалежна ад пастаноўшчыка.

«Супраціўленне матэрыялу» існуе не толькі ў тэхніцы, але і ў мастацтве. «Выключыць» з кнігі Ліндгрэн і вобраза Пэпі паэзію і чалавечнасць — гэта значыць стварыць відовішча з жарцікамі і хохмамі ў славу «наіўнага» эгаізму, самаўлюбёнай упэўненасці ў тым, што ты — верх дасканаласці, самаздаволенага пачуцця, што чалавеку (няхай пакуль ён дзіця) дазволена не лічыцца ні з чым і ні з кім, рабіць не думаючы і забываць не шкадуючы. Навошта ж такі кірунак надаваць добрай кніжцы!

Г. ТРЭСТМАН,
К. ХАДЗЕЕЎ.

---

дзі, рэкамендаваных мясцовымі камісіямі рэспубліканскай камісіі. Рэспубліканская камісія дае творчы аналіз прагледжаных работ, прадстаўляе лепшыя з іх для ўзнагарод і рэкамендуе пераможцаў для ўдзелу ва ўсесаюзным аглядзе.

Пры падвядзенні вынікаў улічваецца творчая актыўнасць маладога акцёра, яго стаўленне да штодзённай працы ў тэатры, да выступленняў у эпізадычных ролях і масавых сцэнах, выкананне ім этычных норм і ўдзел у грамадскім жыцці калектыву і ў камсамольскай рабоце.

Бярэцца пад увагу і агульная арганізацыйная дзейнасць тэатра ў наладжванні плённай творчай атмасферы, якая спрыяе паспяховаму ходу агляду.

Створана камісія Рэспубліканскага агляду работы тэатраў з маладымі акцёрамі і творчых дасягненняў артыстычнай моладзі. Узначальвае камісію намеснік міністра культуры БССР Ю. Міхневіч. У яе склад увайшлі народныя артысты СССР Л. Александроўская, Т. Ніжнікава, З. Стома, старшыня БРК прафсаюза работнікаў культуры Л. Паміла, загадчык сектара аддзела прапаганды і культурна-масавай работы ЦК ЛКСМБ Н. Крыжаноўская, мастацтвазнаўцы А. Сабалеўскі і А. Саннікаў, загадчык кафедры спеваў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі С. Асколкаў, народныя артысты рэспублікі В. Міронаў, І. Савельева і Л. Ражанава, прадстаўнікі тэатраў рэспублікі і грамадскіх арганізацый.

Першы тэрмін прадстаўлення матэрыялаў па выніках цяперашняга агляду Міністэрства культуры БССР — у канцы тэатральнага сезона 1972 года, а потым — у канцы тэатральнага сезона праз кожныя два гады.

---

быць, таксама хапае клопатаў без нас.

Дарагія артысты! Мы разумеем, што вы занятыя мноствам вельмі важных спраў. Але ж вы паабяцалі! Падумайце і аб тым, ці будуць з ранейшым захапленнем глядзець вашы спектаклі тыя, хто з такой шчырай любоўю рыхтаваў вам сустрэчу і каго вы незаслужана пакрыўдзілі сваёй абыякавасцю...

Пятрусь КАПЧЫК,
студэнт Мінскага кааператыўнага тэхнікума Белспажыўсаюза.

---

Л. ПРОКША

# СПАДАР СТАНКЕВІЧ СТАРАЕЦЦА...

БЫЛО Б дзіўна, калі б добра аплачаны агент не стараўся. Было б яшчэ больш дзіўна, калі б мюнхенская радыёстанцыя «Свабода» хоць бы ў нейкай меры аб'ектыўна, без дэмагогіі расказвала аб тым, што адбываецца ў нашай рэспубліцы сёння, аб подзвігу нашага народа ў час вайны і ў мірны час. Які сэнс тады было б амерыканскім бізнесменам утрымліваць гэтую станцыю, выдаткоўваць на гэта мільёны долараў, плаціць грошы хоць бы такім пісакам, як спадар Станкевіч.

Гутарка пойдзе ў дадзеным выпадку аб выступленні Ст. Станкевіча, якое прагучала на хвалях радыёстанцыі «Свабода» ў сувязі з маёй рэцэнзіяй на аповесць Васіля Быкава «Сотнікаў».

«Нельга пагадзіцца, — пярэчыць спадар Станкевіч, — са сцвярджэннем Леаніда Прокшы ў ягонай рэцэнзіі ў «Літаратуры і мастацтве», што ў паводзінах абодвух персанажаў, як кажа Прокша, выяўляецца маральная сіла фізічна разбітага Сотнікава і маральнае падзенне моцнага фізічна Рыбака. Тое, што пісьменнік назваў аповесць «Сотнікаў» (хоць не менш ён засяроджваецца на Рыбаку) не дае яшчэ асновы ўважаць, што аўтарава сімпатыя на баку Сотнікава, як думае Леанід Прокша».

Аповесць сама гаворыць за сябе. Але я ўсё ж рашыў пры сустрэчы на пленуме спытаць самога Быкава, на чыім баку яго сімпатыя.

— Зусім зразумела, што на баку тых, хто змагаўся супраць гітлераўскіх акупантаў. Я ж сам быў на фронце афіцэрам Савецкай Арміі, — адказаў пісьменнік.

І кожны савецкі чытач аповесці, відаць, такой жа думкі: Сотнікаў, які да апошняга снарада разам з артылерыстамі яго падраздзялення адбіваў зацятыя атакі ворага ў цяжкія дні адступлення Савецкай Арміі ў 1941 годзе, які, трапіўшы ў палон, не скарыўся і ў паядынку са ўзброеным фашыстам каменнем адваяваў сабе волю, які пасля ўцёкаў з палону пайшоў у атрад партызан працягваць барацьбу з ворагам, які, трапіўшы ў лапы гітлераўцаў, выбраў смерць, а не ганьбу здрады, — такі Сотнікаў, бясспрэчна, наш станоўчы герой.

Сімпатыі спадара Станкевіча яўна не на баку Сотнікава. Сімпатыі былога бургамістра Барысава хутчэй на баку следчага паліцыі спадара Партнова, пра якога Дзёмчыха сказала: «Вужака ён быў. І ёсць вужака. Не ўсе ведаюць толькі. Культурны». І тое, што сказаў на допыце Сотнікаву, які бараніў Дзёмчыху, спадар Партноў, нагадвае сёння, праўда, у больш завуаліраванай форме, тое, што гаворыць праз радыёстанцыю «Свабода» спадар Станкевіч. Вось дыялог з аповесці:

«— Ні за што пагубіце жанчыну. А ў яе ж трое малых.

— Губім не мы. Губіце вы! Вы яе ў банду ўцягнулі. Чаму тады не думалі пра дзяцей? — жорстка дакараў следчы. — А цяпер позна. Вы ведаеце законы Вялікай Германіі?

«Законы! Даўно ты пазнаў іх, праклятыя смоўж? — міжвольна падумаў Сотнікаў. — Нядаўна яшчэ, мабыць, зубрыў зусім другія законы, а цяпер вось перакваліфікаваўся, спрытнюга!»...

Спрытнюга Станкевіч перад вайной выкладаў у Навагрудскім педтэхнікуме. Былы студэнт гэтага тэхнікума пісьменнік Аляксей Карпюк пісаў ужо ў «Полымі», як спадар Станкевіч перакваліфікаваўся ў гады гітлераўскай акупацыі. І вонкава — сваім ілбом з вялікімі залысінамі — спадар Станкевіч нагадвае спадара следчага паліцыі Партнова, выведзенага Васілём Быкавым у аповесці «Сотнікаў».

«На допыце ў следчага Сотнікаў, — крыўдуе спадар Станкевіч, — нават не спрабуе чым-небудзь аблегчыць сваю долю, кідае яму ў вочы словы нянавісці і агіды, загадзя ведаючы, што гэтым траціць усякую надзею застацца жывым».

Вось каб Сотнікаў пайшоў служыць ворагу, як гэта зрабіў у час вайны спадар Станкевіч, тады ён быў бы «станоўчым» героем. Зусім зразумелая адсюль і лагічная непрыязнасць да Сотнікава, выказаная Станкевічам вось гэтымі словамі: «Ужо сярод іншага самалюбства, упартасці ў гэтага Сотнікава хоць адбаўляй».

Да Рыбака ў пана Станкевіча таксама больш сімпатыі, хоць хваліць здрадніка Станкевічу нявыгадна, але і не сказаць пры нагодзе аб ім ён не можа. І самае галоўнае — пры выпадку апраўдаць і сваю здраду. «Рыбак спрабуе, — гаворыць Станкевіч. — вызначыцца хітрасцю, але каб **не пашкодзіць іншым**». А падтэкст гэтага такі: вось і мы, бебурнацы, у гады гітлераўскай акупацыі ў Беларусі рабілі так, «каб не пашкодзіць іншым».

У абарону Рыбака можна яшчэ сказаць, што, у адрозненне ад спадара Станкевіча, да таго як Рыбак трапіў у лапы гітлераўцаў, ён, як партызан, нешта зрабіў у барацьбе з акупантамі. Спадар жа Станкевіч прыйшоў служыць гітлераўцам добраахвотна і ўжо як бывалы «спрытнюга».

У спадара Станкевіча не было дакораў сумлення. Паслужыўшы гітлераўцам, ён працягвае служыць іншым ворагам нашай краіны. Але трэба прызнаць — не ганьбіць і сваіх былых хлебадаўцаў, а нават заўзята іх бараніць. У шматлікіх выступленнях, якія гучаць на брудных хвалях «Свабоды», Станкевіч ні разу не абвінаваціў гітлераўцаў у забойстве мільёнаў савецкіх людзей. І ў гэтым выступленні, накіраваным супраць рэцэнзіі ў газеце «Літаратура і мастацтва», ён робіць вывад, што не гітлераўцы вінаваты ў смерці мірнага насельніцтва, а... «само жыхарства і партызаны».

**«Жыхарства**, — гаворыць Станкевіч, — **стала аб'ектам помсты за партызанскую акцыю».** Адсюль няцяжка здагадацца: што ж было «бедным» гітлераўцам рабіць, як не жыўцом паліць жыхароў вёсак — такіх, як Хатынь. Вось каб «жыхарства» не звяртала ўвагі на заклік Камуністычнай партыі, Савецкага ўрада змагацца з акупантамі, на заклік Янкі Купалы «Біце гітлерцаў паганых, каб не ўскрэслі век яны», а пакорна, як спадар Станкевіч, схіліла галаву перад захопнікамі, тады б яно і «не стала аб'ектам помсты».

Дарэмна задаваць спадару Станкевічу пытанне: «А дзе ж гонар, дзе патрыятызм?» Яму і плаціць за тое, каб ён рознымі спосабамі ганьбіў партызанскі рух, патрыятызм народа. Робіць ён гэта і ў выступленні, аб якім ідзе гаворка. «Пётр і Дзёмчыха, — гаворыць Станкевіч, — загінулі кожны за тое, што іх наведалі партызаны, а яны **з чыста людскіх матываў не выдалі».**

Іншых матываў, на думку Станкевіча, у гэтых простых людзей не было. Не было ні любві да роднага краю, ні гонару савецкага чалавека.

Што ж, здрадніку вельмі цяжка ўявіць, што можна кіравацца і высокімі матывамі. У Дзёмчыхі на двары ў паліцыі, калі Сотнікаў са звязанымі рукамі ўлаўчыўся вырваць з яе рота кляп, хапіла мужнасці паслаць праклён Гітлеру і паліцаям-запраданцам. Запраданец Станкевіч хутчэй сам сабе ўсунуў бы кляп у рот, чым сказаў такое. Спадару Станкевічу немагчыма ўявіць, што простая жанчына Дзёмчыха духоўна вышэй за «культурнага» Станкевіча.

Але справа не ў Станкевічу. Яго думка аб аповесці «Сотнікаў» і аб рэцэнзіі на яе нас зусім не цікавіць. Справа ў тым, што спадар Станкевіч — адзін са старанных выканаўцаў волі магнатаў амерыканскіх канцэрнаў. Мільёны долараў аддаюць дзюпоны, форды, гільберты, грынуолты, на ідэалагічную радыёвайну супраць Савецкай краіны, краін сацыялістычнай садружнасці, супраць усіх міралюбівых народаў. На васемнаццаці мовах народаў Савецкага Саюза на працягу дзвюх тысяч гадзін у тыдзень радыёстанцыя «Свабода» намагаецца ўвесці ў вушы савецкіх людзей тое, што выгадна для магнатаў канцэрнаў, для агрэсіўнай іх палітыкі.

Спадар Станкевіч не можа пагадзіцца з тым, што Сотнікаў — станоўчы герой аповесці. Наіўным было б думаць, што гэта асабістая думка спрытнюгі-«літаратара». За гэтым крыецца зусім іншае. А іменна: імкненне паралізаваць выхаваўчую ролю мастацкіх твораў, якія паказваюць мужнасць і стойкасць савецкіх людзей у час мінулай вайны, звесці значэнне мастацкай літаратуры аб вайне да паказу **«трагедыі і пакутніцтва народа, спрычыненае вайной і партызаншчынай».**

Зірнем на гэта з падзей сённяшняга дня. «Жыхарства стала аб'ектам помсты за партызанскую акцыю». Прычым тут гітлераўскія захопнікі? Сёння амерыканскі агрэсар робіць тое ж у В'етнаме, што гітлераўцы ў Беларусі. Але ці ж амерыканцы вінаваты — самі, маўляў, в'етнамцы з'яўляюцца «аб'ектам помсты за партызанскія акцыі».

Мэта нашых ідэйных ворагаў, як бы яна ні маскавалася ў розных радыёперадачах, у якой форме ні выяўлялася б — у рэцэнзіі на мастацкую кнігу або на твор па гісторыі, — адна: пазбавіць савецкіх людзей самай галоўнай і магутнай зброі — жыватворчага і непераможнага савецкага патрыятызму, той зброі, дзякуючы якой савецкі народ перамог у мінулай вайне і пераможа, калі хто наважыцца парушыць яго мірнае жыццё.

У аповесці Васіля Быкава «Сотнікаў» ёсць такая сцэна. Спадар следчы Партноў, убачыўшы на падлозе акрываўленага Сотнікава, разыгрывае імправізаваны фарс вялікадушнасці да арыштаванага.

«— Хіба такая была інструкцыя, — дапякае ён паліцая Гаманюка. — Так нас вучыць германскае камандаванне!»

А паліцай, быццам вельмі настрашаны гэтым, адказвае:

«— Вінават! Больш не будзе. Вінават».

Сотнікаў спыняе гэтую гульню «добразычліўцаў» двума словамі:

— Дарма стараецеся.

Сёння былы гітлераўскі служка, выконваючы загады Цэнтральнага разведвальнага ўпраўлення ЗША, разыгрывае фарс пакутніка за цярпенне беларускага народа ў гады гітлераўскай акупацыі, зычлівага прыхільніка беларускай літаратуры. Адкажам рэжысёрам і выканаўцам гэтага бяздарнага фарса словамі героя аповесці:

— Дарма стараецеся!

---

## ПАМЯЦІ КІНААКТРЫСЫ

На 65-м годзе жыцця не стала Таццяны Барысаўны Кацельнікавай. Згасла адна з першых беларускіх кіназорак. Студэнтка першага выпуску акцёрскага аддзялення Дзяржаўнага тэхнікума кінематаграфіі, яна здымалася ў многіх фільмах заснавальніка беларускага кіно Ю. Тарыча («Крылы халопа», «Капітанская дачка», «Банда бацькі Кныша» і інш.), але галоўнай, любімай, найбольш папулярнай яе роляй была Гэлька, дачка лесніка з першай нацыянальнай мастацкай кінакарціны «Лясная быль», якую паставіў Ю. Тарыч па аповесці Міхася Чарота «Свінапас».

Таццяна Барысаўна працавала і як асістэнт рэжысёра на розных студыях («Мастэхфільм», «Ваентэхфільм», «Маснавучфільм»).

У 1960 годзе яна пайшла на пенсію. Але нягледзячы на гэта, Т. Кацельнікава неаднаразова вярталася працаваць на студыю — не ўяўляла, як гэта можна жыць без кіно...

Летась я наведаў вёску Падгай на Міншчыне, дзе 45 год назад здымалася «Лясная быль». Жыхары вёскі, сялянскія «кінаартысты», якія ўдзельнічалі ў здымках, з глыбокім пачуццём успаміналі Гэльку — Таццяну, няўлоўную партызанскую сувязную, гарэзлівую, няўрымслівую.

Вось такой яна застанецца ў памяці і сэрцы ветэранаў-белдзяржкінаўцаў, гледачоў, у гісторыі кіно.

І. РЭЗНІК,
метадыст Мінскага дома кіно Саюза кінематаграфістаў БССР.

**Д**ЗІЎНА паводзяць сябе часамі людзі.

У перапоўненай зале варта кашлянуць ці пазяхнуць аднаму чалавеку, як пачынаюць за ім кашляць ці пазяхаць астатнія. Гэта ж не выдумка, што за мяжой некаторыя дырэктары тэатраў наймаюць спецыяльных рагатуноў, каб тыя заражалі смехам усю залу.

З'яву такую вучоныя называюць «псіхалагічным рэхам».

А вось яшчэ адна людская ўласцівасць.

Прынеслі вы навіну ды расказалі дамашнім. Члены вашай сям'і на яе чамусьці не надта зрэагавалі. Затое па нейкім часе вы са здзіўленнем заўважаеце: тое, пра што некалькі дзён таму назад дома гаварылі вы, цяпер, як сенсацыю, прынесла ваша жонка, дачка ці сын.

Законы такога «псіхалагічнага рэха», калектыўнае падпарадкаванне пагалосцы прыходзяць на думку, калі ўспамінаеш рэлігійны псіхоз, у які часта ўпадалі сяляне былой Заходняй Беларусі. Часамі пад уплывам незразумелых прычын з канца ў канец маёй вёсачкі Страшава праносілася, як маланка, вестка:

— У цёткі Агаты ікона абнавілася!

На самай справе абраз той мацеры божай, Ісуса Хрыста ці Мікалая Угодніка, быў гэтак сама чорны, патрэсканы ды заседжаны мухамі, якім быў учора, у мінулым годзе, але паводле ўсясільнай чуткі абраз ужо быццам бы свяціўся, прамянеў і ззяў усімі фарбамі вясёлкі так, што і вачэй на яго не паднімеш.

Неўзабаве навіна пра абнаўленне, бы снежны ком, які нясецца з гары, расла, агортвала вёскі суседнія, абрастала новымі неверагоднымі дэталямі цуду.

Гэткія абнаўленні здараліся тады ва ўсіх нашых вёсках, ім ніхто і не здзіўляўся.

Але аднаго разу дайшла да нас чутка, што недалёка ад Страшава — у вёсцы Грыбоўшчыне — узнікла святая царква, а ў ёй паявіўся святы прарок Альяш.

І пасля гэтага пачалося.

Мой літаратурны божа, дай мне цярпення і фарбаў, каб я змог проста і зразумела паведаміць аб тых падзеях!..

Вучыўся я ўжо ў трэцім класе, і аднаго разу на нашай дарозе спаткаў людзей, якія пакляліся дабрацца да Грыбоўшчыны на каленях. Я нават палічыў удзельнікаў незвычайнага паходу. Паўзло 183 чалавекі.

Дзядзька Салвесь, наш сусед, доўга ўгаворваў багамолаў вярнуцца дамоў. Яго не слухалі. Дзядзька потым стаў іх лаяць і сарамаціць:

— Вы што — маленькія!.. Як вы можаце на людзей глядзець! З вас вунь дзеці смяюцца!..

— Фу, фу, адыдзі, сатана!..— агрызнуліся на яго бліжэйшыя.

Салвесь не пакрыўдзіў і мухі, але тут разабрала і яго. Дзядзька хапіў пугу, якой паганяў каня, уляцеў у самую гушчу багамолаў і давай той пугаю іх «хрысціць».

На дзіва, людзі яшчэ як бы і ўзрадаваліся. На тварах тых, каго сцебанула пуга, засвяцілася нават як бы шчасце ад таго, што вось яны прагнулі святой таямніцы і, нарэшце, да яе прылучаюцца. Мармычучы малітву, людзі з нейкай баязлівай радасцю падстаўлялі плечы пад пугу і лезлі, лезлі і лезлі далей...

Беручыся за гэтую аповесць, я прагартаў слоўнік, дзе апісаны ўсе вядомыя секты і рэлігійныя плыні. Пра Альяша з Грыбоўшчыны там — ні слова. На тэрыторыі былой Заходняй Беларусі цяпер пра яго ўжо ведае толькі старэйшае пакаленне.

Было калісьці, мабыць, яшчэ і не такое. Ніхто ўжо і не скажа, колькі разоў паўтаралася падобнае на Зямлі!..

Ох, як асцярожна трэба ступаць па ёй, па высушаных на пыл няздзейсненых марах, па абсягах цярпенняў і болі прашчураў нашых — яны заклікаюць да спачування і роздуму.

Відовішча як тыя паўзуны, мужыкі з Палесся, здранцвелымі каленямі малацілі па страшаўскім бруку, падмятаючы яго абцёпканымі рэшткамі кужэльных нагавіц і пакідаючы крывавыя сляды, будзе ў маёй памяці да самай смерці. Я, жывы сведка здарэння, якому выпала звязаць свой лёс з пяром, не напісаць пра Альяша не маю права.

Прыступаючы да гэтай аповесці, адной сваёй памяці я не давяраў, але матэрыял збіраўся лёгка. Дзесяткі людзей ахвотна дапамагалі мне сваімі ўспамінамі, за што я ім вельмі ўдзячны. Аўтарскай фантазіі належаць толькі другарадныя фрагменты, якія мне здаліся цалкам верагоднымі. Іх я дамысліў на аснове фактаў, што людзі мне расказалі.

АЎТАР.

Аляксей КАРПЮК






**РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ**

**1.**

Паміж Саколкай і Бераставіцай, ля Студзянскага лесу і мястэчка Крынкі, прытаілася вёска Грыбоўшчына. Маленькая, на дваццаць пяць двароў.

Грыбоўшчынцам ад памешчыкаў дасталося дзікае тарфянішча і пясчаныя ўзгоркі з хмызнякамі, на якіх нават жыта расло благое. Бы нашыя страшаўцы, яны прыраблялі сабе ў лесе ды сяк-так зводзілі канцы з канцамі.

Грыбоўшчына яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя прымусіла цэлую акругу загаварыць аб сабе з жахам.

Пачалося ўсё з-за таго, што ў гэтую вёсачку прыбілася аднекуль нямая і струпастая дурніца. Ніхто не ведаў ні яе бацькоў, ні яе імені. Бабкі заступіліся за няшчасную перад старастам, і той дазволіў ёй пасяліцца ў пустой хаціне. Яшчэ цёткі дамовіліся з крынкаўскім рэстараншчыкам Хайкелем, каб ён узяў яе круціць спружыну ў шафе, што іграе, і сатуратар для газіроўкі.

З часам людзі звыкліся з тым, што летам босая, а зімой у вялізных салдацкіх чаравіках нямая валочыць у мяшку з крынкаўскага рэстарана аб'едкі і так сабе жыве.

Аднаго дня гэтая дурніца прывяла сына. Дзіця было на дзіва вялікае і рухавае. У будыніну, дзе сярод трантаў кешкаліся гэтыя двое, людзі пачалі зносіць хто гаршчок з гарачай бульбай (бо дурніца не ўмела ў пліце распальваць), хто яечка, хто бярэма дроў, а хто клаў грошык...

Здзіўленыя бабы адна адной казалі:

— Ты бачыш, які ў яе здаравяка сын—голы па снезе бегае і хоць бы што!

— А паглядзі ты, колькі гэты малы есць—за паўтарых!

Аднаго разу крынкаўскія ўхажоры дурніцу да непрытомнасці напаілі і яна перад вёскай на выгане акалела. Труп нехрышчонай кабеціны бацюшка на могілкі не пускаў. Жаласлівыя бабкі там жа на выгане кабеціну пахавалі, сваіх мужыкоў прымусілі зрабіць на магілку агароджу, а сірату ўладкавалі да гаспадара пасвіць гусей і ўзялі ад таго абяцанне, што завязе малога да царквы і ахрысціць.

Першыя словы малы пачаў вымаўляць толькі ў шэсць гадоў. Але непераборлівы і жвавы хлопчык, які еў і свіную бульбу, ніколі не хварэў, насіў абы што, а спаў у хляве, дзядзьку задавальняў—ад яго была карысць. Пасучы кароў, хлопчык даваў рады нават даросламу мужчыне. А то садзіў сабе на плечы трох братоў Аўхімюкоў ды пёр іх праз вёску...

Дзядзька так і не выбраўся да бацюшкі, не ахрысціў сірату, і людзі прыдумалі імя яму самі.

— Паўтарак!—празвалі асілка ў Грыбоўшчыне.

У той самы час, у незаможнага селяніна, пры бацьку і маці рос аднагодак Паўтарака, галоўны герой маёй аповесці, Альяш Клімовіч, якому сын нямой сваёй жудаснай біяграфіяй праклаў потым дарогу да кар'еры.

Страшаўскія хлопцы тады ў Студзянскім лясніцтве пускалі лес, у Грыбоўшчыне сталаваліся. Такім чынам, жыццё маладога, яшчэ нічым непрыкметнага Альяша ішло на вачах маіх аднасяльчан, і яны ахвотна, памятаю, пра яго апавядалі. Са страшаўцамі Альяш пускаў тыя самыя сосны.

Суботнімі і нядзельнымі вечарамі, калі цяжка было ў сабе ўтаймаваць маладыя сілы, нашыя хлопцы ў кампаніі Альяша ўзвальвалі якому-небудзь дзядзьку сані на ліпу або снопікам затыкалі ўдаве комін, ды патрабавалі выкуп. Узброеныя бязменамі, урываліся на музыкі і разганялі супернікаў, лавілі дзевак і завязвалі ім на галовы спадніцы.

Паўтарак, напрыклад, хапаў за рогі быка, заламваў яму галаву на спіну і жывёліна, як падкошаная, падала на калені. А то ўпіраўся ў ручку воза, і конь не мог зрушыць фурманкі з месца.Назбыткаваўшы гэтак з дзядзькі, Паўтарак браўся за спіцы, перакульваў дагары коламі воз, а дошкі, палукашак, салому абрушваў на ледзьве жывога вяскоўца.

Падышоў час навабранства.

Забралі да войска страшаўцаў, якія працавалі тады ў Студзянскім лясніцтве. Пайшоў служыць і Альяш Клімовіч. У салдаты не ўзялі адно Паўтарака. «Па прычыне тупасці», як напісалі ўрачы ў дакументах.

**2.**

Ішлі гады.

Вярнуліся з войска нашы лесарубы. Яны перажаніліся, падмянілі пастарэлых бацькоў на гаспадарцы, пасталелі, пачалі гадаваць сваіх дзяцей, і гэтак сама, як бацькі, хадзіць у царкву ці касцёл, вытрымліваць пасты, валяцца без работы ў святы. Яны ўжо і самі сабе не верылі, як вычаўплялі ў Грыбоўшчыне.

Цяпер іншыя страшаўскія хлопцы пускалі ў Студзянскім лесе выносныя сосны ды, згодна з узроўнем тагачаснай этыкі і нораваў, прымалі ўдзел у амаль такіх жа дзікіх гульнях. Толькі сталаваліся яны ўжо ў іншай вёсцы—у Грыбоўшчыну цяпер было небяспечна нават і заглядваць.

Бо ў гэтай мясціне каторы год буяніў Паўтарак. Сын дурніцы з сакольскім немцам Вілі стварыў шайку і тэрарызаваў цэлую акругу.

Бандыту падабалася спатыкаць абы каго на дарозе, адабраць грошы, не вартасцёвую ношу ці нават садраць з галавы жанчыны хустку, а таму, хто не спадабаўся ці сказаў хоць слова супроць,—паламаць рукі і ногі.

Сіраце ўвёў нехта ў вушы, што ён павінен помсціцца за сваю маці. Паўтарак перапыняў якую-небудзь дзеўку на дарозе і валок ахвяру на выган да магілы гвалціць.

Іншым разам бандыты блакіравалі ўчастак паліцыі, сам жа Паўтарак з шайкай урываўся ў крынкаўскі рэстаран, хапаў за ножкі дубовы стол, узнімаў яго над галавой і пытаўся:

— Ну, хто тут з вас мой татка, прызнавайцеся?!. А-а, заткнула ва-м?!. Цурык!—кідаў ён, як праклён, завучанае ад Вілі нямецкае слова ды са страшнай сілай апускаў цяжкі стол на каго папала.

Канчалася гэта тым, што ні жывыя, ні мёртвыя госці забіваліся ў кут ды крадком мацалі сінякі і пераломы. Гэтым часам бандыты выкладвалі на сталы браўнінгі і кінжалы, займалі месцы. Анямелы рэстараншчык паіў шайку і карміў да адвалу.

Паўтараку і гэтага было мала.

— Хайкель, заводзь шафу, што іграе!..—клікаў ён рэстараншчыка.—«Барыню» давай!.. Не, не-е, спружыну, жыдзе, круці сам!.. А вы, мае татачкі, танцаваць!.. Цурык!.. А ну, жыва!.. Краля, ты раздзявайся! Вілі, пагуляй з ёю!.. Цурык!..

А гарады Прынёманшчыны ўжо ўскалыхвала завaруха перад блізкай рэвалюцыяй. У мястэчках—Саколцы, Гарадку ды і ў саміх Крынках рабочыя наладжвалі першыя сходкі, мітынгі. Толькі іхніх імкненняў сяляне не падзялялі. Яны лічылі беззямельны местачковы люд галадранцамі.

На вёсцы панаваў непахісны аўтарытэт царквы і цара. Хто выступаў супроць устаноўленых парадкаў, станавіўся асабістым ворагам мужыка. Слова «цацаліст» служыла лаянкай і абазначала тое самае, што антыхрыст.

Пачуўшы стрэлы ў Крынках і Гарадку, дзе атрады карнікаў разганялі першыя дэманстрацыі тэкстыльшчыкаў ці гарбароў, багамольная цётка Піліпіха ў Празніках біла паклоны ў бок царквы ў Вострава, палымяна хрысцілася ды горача маліла бога:

— Госпадзі, калі ты ўжо забароніш гэтую свабоду і пакараеш злыдняў-цацалістаў!..

— Усемагутны божа,—памагала ёй Хрысціна Русель з Грыбоўшчыны,—зрабі так, каб і злыдзень Паўтарак свету твайго болей не ўбачыў!.. Няхай паадсыхаюць у гэтага нехрыста паганыя рукі, якімі ён нас мэнчыць і крыўдзіць!..

У мястэчках неўзабаве ўсё прыціхла, але не паспакайнела на вёсках. Ні прыставы, ні жандармерыя, ні эскадрон сямёнаўскіх казакаў, якіх спецыяльна прыганялі аж з Гродна, не маглі аніяк даць рады шайцы Паўтарака. Кожны раз яна выслізгвала ад пагоні і знікала ў лесе.

І людзі да яе памалу прыцярпеліся.

Вёскі пакорна зносілі бандытам выкуп. Паілі шайку гарэлкай. Не выпускалі з сяла дачок. Калі ж трапляў хто бандытам у лапы, стараўся не пікнуць, і потым пра выпадак маўчаў, як вады ў рот набраўшы.

**3.**

У свой час вярнуўся з войска і Альяш. Бацька знайшоў яму нявесту. Альяш ажаніўся і стаў гаспадарыць.

Альяшовы равеснікі цяпер жылі так, нібы адбывалі павіннасць.Аралі плугам неўрадлівыя пяскі, касілі чэзлую траву на тарфяніках або выглядалі лесніка і ездзілі ў лес чым-небудзь пажывіцца. У вольны час яны пакорна наведвалі царкву або касцёл. Вечарамі ў святы заглядвалі ў чарку. Сабраўшыся дзе-небудзь пад плотам, смакавалі жахі, якія вытвараў Паўтарак на вёсках, а «цацалісты»—па гарадах...

Альяш гарэлкі не браў і ў рот. Не цягнула яго і на людзей, бо па натуры быў сугней. Толькі і дома карысць была з яго малая. Дзяцей ён не любіў, з жонкай жыў кепска—з-за кніжак.

У салдатах Альяша навучылі чытаць. У вольны пасля работы час пачаў заглядваць да царкоўных фаліянтаў, што траплялі на вёску з Супральскага манастыра. Чалавека разумнага, з добрай душой ды чулым сэрцам поўныя чароўнай паэзіі стараславянскія тэксты маглі б вунь як узбагаціць, ды Альяш на жыццёвым шляху не напаткаў сілы, якая б падняла яго да такога ўзроўню. Абмежаваны дзядзька тэксты старажытных фаліянтаў успрымаў слова ў слова, верыў ім па-мужыцку — грунтоўна, раз і назаўсёды.

У грыбоўшчынскіх баб і дзядзькоў, якія «святога пісання» чытаць зусім не маглі, Альяш паступова пачаў выклікаць пашану. Яна і пасяліла ў самалюбівым чалавеку ўпэўненасць, што ён—не такі як усе.

Альяш пачаў апавядаць людзям, што аднойчы, калі ён пасвіў уначы коней, раптам яго асляпіла незямное святло, на небе з'явілася мацер божая ды паведаміла, што бог даручае яму пабудаваць на ўзгорку царкву, што месца тое будзе святым, а ён стане пракорам-цудатворцам.

Такія байкі тады былі звычайнай з'явай, і нам, людзям з тэлевізарамі, радыё і каласальным навалам рознай інфармацыі, грэх з яе смяяцца.

Асабліва зімой мужыкоў цягнула на гэткую творчасць, на розныя неверагодныя гісторыі. Некаторыя з іх памятаю і я.

Дзядзька з Зуброў, бывала, на поўным сур'ёзе апавядаў, як ноччу, калі ён таксама пасвіў коней, перад ім раптам расступілася зямля, і ў яме з агнём ён убачыў вялізную гурбу золата. Не зважаючы на агонь, дзядзька палез у гэтую яму, пачаў выграбаць золата сабе ў мяшок, але ўсё яму здавалася мала. Ён дацягнуў да ракавога моманту, калі праспяваў певень, і багацце яго знікла.

— Вось яшчэ сляды пухіроў ад агню, бачыш?—паказваў ён мне не раз на свае заскарузлыя рукі з белымі плямамі там, дзе прамяністымі зборачкамі нарасла маладая скура.—Эх, каб паспеў да таго халернага пеўня вынесці золата наверх, хіба я такі цяпер быў бы?!.

Зуброўскі дзядзька пры гэтым вельмі сумна ўздыхаў—мне і сёння яго шкода.

І хто ведае, магчыма, і праўда, здалася яму яма з золатам, а відовішча было такім рэальным, што і рукі пабраліся пухірамі.

Перад страшаўскім Клемусам у маладосці па дарозе ў Гарадок з'явіўся Хрыстос, аб'явіў яго праведнікам і паабяцаў пасля смерці забраць на неба, далучыць да ліку святых.

Дзядзька Клемус шмат дзесяцігоддзяў упарта і падрабязна расказваў пра сваю сустрэчу з Ісусам Хрыстом. Некалькі пакаленняў страшаўскіх дзяцей ведалі напамяць, што Клемусу сказаў сын божы, і дзе здарыўся той цуд. Але па тым самым законе, па каторым ваша навіна не мела поспеху і тады толькі узрушыла членаў вашай сям'і, калі на вуліцы набрала крылляў, і Клемусава легенда далей страшаўскіх хлопчыкаў ды бабак так і не пайшла, крыллі да яе не прысталі.

Адным словам, як набожнаму Клемусу—Хрыстос, зуброўскаму дзядзьку—яма з золатам, так і Альяшу ў яго ўяўленні магла здацца і мацер божая. А мо было прасцей. Альяш, мажліва, аднаго вечара ўсё гэта нафантазіраваў, але столькі разоў паўтараў людзям хлусню, што ўжо і сам у яе паверыў.

Так ці інакш, а мае аднавяскоўцы, Альяшовы равеснікі, дакладна памяталі, калі Клімовіч пачаў правіць легенду, і пасмейваліся з яго, бы з Клемуса.

Смяяліся яны дарэмна.

Альяш на прыгорку пад лесам і праўда неўзабаве стаў капаць траншэю пад фундамент і вазіць туды каменні.

І тады легенда зрабіла сваё. Бо калі людзям цяжка, калі няма ў іх выйсця, не бачаць яны ні адкуль ратунку, тады надта ж лёгка—абы зачэпка!—верыць у цуд, міфы пра збавіцеляў, Георгіяў-пераможцаў, бескарысных абаронцаў.

## 4.

Неўзабаве навіна пра аб'яўленне Альяшу мацеры божай і аб яго рабоце перакінулася на суседнія вёскі ды паімчала па іх тым самым тысячагалосым «псіхалагічным рэхам».

Людзі апавядаюць, як потым на ўзгорак ля Грыбоўшчыны сышліся сотні баб з Нетупы, Гуран, Вострава, Ляшчыной...

Апантанасць аднаго спарадзіла масавую апантанасць. Між іншым, калі заглянуць у літаратурныя архівы, то дакладна ў той самы час блізка грыбоўшчынскага ўзгорка недзе хадзіла па хацінах Сухой Даліны мудрая Эліза Ажэшка ды збірала па гарачых слядах матэрыял для сваіх «Дзюрдзяў». Апантаныя мужыкі затаўклі там жонку каваля, прызнаўшы ў растаропнай маладзіцы ведзьму...

Альяша якраз на ўзгорку не было. Бабы пасталі на калені сярод яго крушняў і траншэй, пачалі маліцца. Па пэўным часе малення людскую масу раптам скалануў віск Русялёвай Хрысціны:

— О!.. О!.. Людзі-і, глядзіце; на небе зноў ЯНА!..

— Дзе?.. Дзе-е?... — з пазадзіранымі галовамі, з забабонным страхам, баючыся самі сабе прызнацца, што нічога не бачаць, зашапталі бабкі.

— Глядзіце, ля хмаркі!.. Вунь той, кучаравай!..

— Ах, бо-ожа... У ядвабнай шаце, з дзіцяткам на руках!..— звар'яцелая ад шчасця, пракрычала ўжо другая кабета, цётка Піліпіха з Празнікаў.

— І пра-аўда!.. Яшчэ й усміхаецца да нас, родная!.. Няўжо не бачыце?!. Вунь, глядзіце!.. — ажыўлена паказвала трэцяя бабка ды так шчыра, быццам трымала цуд за ногі.

Цётка захлёбвалася ўжо ўмільнымі слязьмі:

— Ах заступніца ты на-ашая!.. Дзякуй табе, што ашчаслівіла нас, бядотных, сваім яўленнем!.. Цяпер выслухай ты сірот сваіх і памілуй!.. Зрабі ты нам... Спусці на нас... Ы-ы-ы!.. — далей не вытрывала, зараўла яна ад разгубленасці.

І ўжо сотні амярцвелых ад цуда, прагных да перамен пакутлівых душ, якія пакаленнямі чакалі збавення, загіпнатызавана пацягнулі ў неба рукі.

— Дайце паслухаць, ЯНА гаворыць нешта!..

— Я толькі бачу, але нічога не чую!..

— Дзе-е, цё-оттко?.. Пакажы-ыце!.. Хто-о, што-о гаво-орыць?..

Чыйсці прарэзлівы дыскант заглушыў усіх:

— Сціхнемо, бабы!.. Адной цётцы Хрысціне дано чуць голас багародзіцы!.. Змоўкнемо, няхай яна адная і ўслухаецца!..

На ўзгорку запанавала мёртвая цішыня.

— Слу-ухайце, цётко Хрысціна!.. До-обра слухайце і нам пераказвайце!..

Руселіха з узнёслай і п'янай ад радасці ўсмешкай, зблуднымі ад узбуджанасці вачыма, уставіўшыся ў неба, пачала скарагаворкай, з доўгімі паўзамі перадаваць:

— О!.. Гаворыць... Што ўласць... Што ўласць на зямлі бог даручае... Нашаму Ільі Клімовічу!..

— Ах-х-х!.. — як адзін чалавек, уздыхнуў уражаны натоўп.

— Значыць, гэта праўда — яму-такі! — нехта не вытрымаў і сказаў уголас.

— Ціха-а!.. Не перашкаджаймо ёй.

— ...Што Альяш у яго тут намеснік!.. Пабудуе божы храм!.. Наказвае, каб Альяша мы слухаліся, ён прывядзе нас усіх да царства нябеснага!..

З-за хваінкі ў гэты момант вынырнуў і сам Альяш з возам каменняў. Убачыўшы воблака пылу, нехта ўстрывожана кінуў:

— А-ей, бабы!.. Далібог, мусіць, нехрыст Паўтарак там вунь ідзе!

І зборышча баб, якія так добра ўладкаваліся для разладавання сваіх эмоцыяў, агарнула дзікая паніка. Нібы ўзнятыя бурай, усе яны сыпанулі ў вёску.

...З той пары, калі жанчыны на ўласныя вочы ўбачылі на ўзгорку мацер божую і самі нават гутарылі з ёй, яны пачалі дапамагаць Альяшу варочаць каменні і капаць зямлю. Іншыя сталі зносіць рублі ды распальваць, распальваць адны адных неверагоднымі падрабязнасцямі пра цуд.

Русялёва Хрысціна і Пятрук Майсак з Грыбоўшчыны, Піліпіха з Празнікаў і яшчэ некалькі чалавек нават пакідалі свае сем'і, зракліся гаспадарак і пабрылі па вёсках збіраць на царкву грошы.

## 5.

І ўсё ж такі кола Альяшовых прыхільнікаў было яшчэ невялікае.

І тады Альяш нечакана аднавяскоўцаў уразіў. Раптам ён аб'явіў, што прадае сваё поле і балота.

Клімовічава жонка запратэставала. Узбунтаваліся і падлеткі-дзеці. Альяш адлупцаваў усіх да сінякоў і зрабіў па-свойму.

Дзядзька пакінуў сабе толькі адзін гектар. Амаль цэлы дзевяцігектарны ўчастак, які ад бацькі дастаўся яму ў спадчыну, Альяш прадаў, а выручаныя грошы паклаў у агульную касу. Затым на ўсю суму накупіў цэглы, вапны, наняў рабочых і тыя неўзабаве заклалі фундамент, пабудавалі сцены.

У царкве, як вядома, самае працаёмкае — афармленне будынка і ўзвядзенне верха з купаламі. На гэта патрабавалася сродкаў ужо вельмі многа. Зборшчыкі вярталіся з пустымі кішэнямі — у далёкіх вёсках Альяш яшчэ не быў вядомы.

Трэба было нешта прыдумаць, і ў галаве настойлівага селяніна ўзнікла ідэя.

Сярод багамолаў Рускай імперыі разам з Распуціным грымеў тады цудатворац Іаан Кранштацкі — пратаіерэй Андрэеўскага сабора. Цяпер мы ўсе ведаем, што гэта — цемрашал, распуснік, анархіст і чарнасоценец, але для нашых дзядоў ён быў богам, і дзядзька Альяш не сумняваўся, што Іаан дапаможа.

Летам 1906 года, калі ўжо пакасілі балота, а да жніва яшчэ было далёка, Клімовіч узваліў на плечы торбу з харчамі, і Руселіха, Піліпіха ды другія бабы праводзілі яго на вакзал у Гродна. На пероне губернскага горада пачалі яны чакаць цягніка.

Уздоўж вакзала пахаджвалі латошніцы. Ля буфета пад навесам тоўпіліся пасажыры першага і другога класа — вайсковыя з шаблямі на баку, бацюшкі і прыказчыкі з саквяжамі, рухавыя яўрэі. Важна, бы генерал на пастаменце, сярод перона тырчэў прыстаў. Цёткі з Клімовічам пасталі зводдаль і глядзелі на ўсё з насцярожанай і недабразычлівай цікавасцю.

Латошніца з нафарбаванымі вуснамі паднесла Альяшу пакецік з гарэлкай:

— Купі, мужычок, у дарогу!.. Або ліманаду, радзімы, вазьмі з сабой!..

Альяш нядобра яе агледзеў і кінуў:

— Памый пупы вунь у той лужыне!

Жанчыну нібы ветрам змяло. Бабы з мсцівым здавальненнем сталі Альяшу падтакваць:

— І трэба ж гэтак вымазацца!.. Цьфу!..

— Каб мне даваў хто нават дзесяць рублёў, я такой агіды і да рота не паднесла б!..

— З голымі рукамі да мужыкоў павыходзілі! — абуралася Піліпіха. — Яшчэ калені агаліла б!.. Бога не баяцца, бессаромныя!..

— Распусты ў горадзе — колькі хо-очаш! — разважыў Альяш. — А нашыя бацюшкі?! Вунь і тут не могуць вытрываць, каб не распіваць сваіх піваў і чаёў!..

— А што ім? — падхапіла Піліпіха. — Грошы маюць без ліку!..

Бабам падабалася ў Альяшы гэткая непахіснасць, але па натуры яны былі ласухамі. Хрысціна выказала тое, што ўсе мелі на ўме:

— То ўзяў бы, Альяш, на дарогу сабе бутэльку якога-небудзь пітва, грошай мы табе сабралі!..

— Не люблю балаўства, лепш — вады.

— А я б, здаецца, каб наелася ўдоваль булкі з ліманадай, то нічога ў жыцці болей не хацела б!.. — прызналася ў сваёй слабасці жанчына.

Гутарку ім абарвалі — дзяжурны пазваніў на пасадку.

Альяш падняў з перона мяшок і накіраваўся да цягніка. Цёткі спахапіліся, што дарэмна трацілі час на пабочныя размовы, і нахаду сталі Альяша прасіць:

— Умалі ты ўжо, Альяшку, цудатворца Іаана, каб ён закінуў слоўца перад госпадам богам — няхай прыйдзе, нарэшце, гібель на Паўтарака!

— Далібог, праўда, як бы мы там ні саграшылі перад усявышнім, але няхай ён ужо злітуецца, няхай адменіць кару. Скупілі мы даўно свае віны, хопіць з нас мучэння!..

— Скажы пра гэта, Ілья, не забудзь!..

Самалюбіваму селяніну не спадабалася, што бабы яго павучаюць.

— І сам ведаю! — буркнуў ён.

Тады закінуў мяшок у тамбур і палез у вагон.

## 6.

Праз двое сутак дзядзька Клімовіч прыбыў у далёкі Петраград.

Кранштацкаму цудатворцу госць з Прынёманшчыны прыйшоўся да спадобы.

Іаан прызнаў у Альяшу натхнёнага раба божага і выдаў адпаведны ліст, у якім гаварылася, што Ілья Клімовіч мае ад бога наказ пабудаваць царкву на святым узгорку, а ён, цудатворац, Іаан Кранштацкі, урачыста пра гэта сведчыць сваім дастойным подпісам.

Пратаіерэю гэтага здалося мала.

Брат цудатворца служыў міністрам царскага ўрада. Іаан узяў міністэрскі бланк і выдаў яшчэ Альяшу зварот да ўсіх свяшчэннікаў імперыі — дапамагаць натхнёнаму святым духам рабу божаму, Ільі Клімовічу, збіраць грошы на новы храм.

З гэткімі дакументамі, з блаславеннем самога



Альяш блаславўляе народ...

Іаана Кранштацкага, дзядзька Альяш і адправіўся дамоў.

А ў Грыбоўшчыне за гэты час разгарэлася драма.

## 7.

У вёсцы жылі тры браты Аўхімюкі — тыя, на каторых Паўтарак некалі дэманстраваў сваю сілу. Самы старэйшы брат, Іван, служыў у войску, захварэў на сухоты і яго камісавалі; Базыль і Валодзька заставаліся на гаспадарцы.

Сядзеў сабе неяк Іван на лавачцы перад хатай ды грэўся на сонцы. Аднекуль з'явіўся п'яны Паўтарак і давай з хворага збыткаваць — выкручваць яму ногі, да кален гнуць галаву...

Сярэдні Аўхімюк, Базыль, пабачыўшы, што шайкі нідзе не відаць, заляцеў у хату, хапіў дубальтоўку і з акна ўсадзіў бандыту ў жывот два зарады. Трымаючыся за вантробы, бандыт палез у хату да Базыля. У гэты момант самы малодшы брат, Валодзька, прыпёр з хлява касу. Абяссіленага ад страты крыві Паўтарака тры браты збілі з ног, і перарэзалі яму горла.

Аўхімюкоў забралі на ўчастак, а ўсю акругу агарнула радасць. Багамолкі ледзь не пашалелі. Цёткі бегалі ад хаты да хаты і цвярдзілі:

— Ага, усявышні паслухаўся просьбы Альяша!

— Выбавіў нас Ілья ад пачвары!

— Гэта — знаменне гасподняе!..

— Расчысціў бог дарогу свайму чалавеку!

— Напэўна!..

— Якое шчасце, што чалавек божы жыве сярод нас!..

— От пабачыце, як цяпер будзе нам добра!..

Піліпіха, Руселіха і Майсак пабралі ў Вострaве царкоўныя харугві, склікалі баб, мужыкоў, і натоўп адправіўся ў Гродна спатыкаць святога чалавека, што ўратаваў вёску. Людзі, кажуць, чакалі яго на вакзале трое сутак, а потым да самай Грыбоўшчыны амаль на руках неслі.

## 8.

Не ў прыклад лянівому і нясмеламу страшаўскому Клемусу, Альяш з Грыбоўшчыны, бы адчайны ігрок у рулетку, які рызыкуе паставіць на карту ўсю фартуну, байку сваю рашуча падмацоўваў справай.

Ішоў год за годам. Жонка яго падарвалася на рабоце і памерла. Сын пасварыўся з бацькам і пайшоў добраахвотнікам на фронт. Дочкі без яго дапамогі павыходзілі замуж і ад старога адмовіліся. А Клімовіч вёў сваё. Нават у часы сусветнай бойні раз'язджаў па імперыі са скарбонкай, збіраў сродкі на сваю царкву.

Грамадзянская вайна сабраныя Альяшом рублі абясцэніла.

Між Грыбоўшчынай і СССР неўзабаве пралягла граніца.

Нястомны Альяш прыступіў зноў да збораў. Цяпер збіраў на тэрыторыі адной Польшчы ўжо залатоўкамі.

І вось за сабраныя такім чынам сродкі ў 1926 годзе Альяш Клімовіч, хоць застаўся без зямлі, без грошыка ў кішэні, без сям'і, але царкву-такі пабудаваў.

Такая сабе звычайная, пабеленая вапнай цэркаўка, якая белым яечкам прыгажэла на ўзгорку. Храмік узвялі самаробныя майстры без архітэктараў, чарцяжоў і планаў, таму, калі глядзець на яго зблізку, аб сіметрыі і лёгкасці гаварыць не прыходзілася.

Менавіта гэтая будыніна потым столькі гадоў кружыла галаву амаль дзесяці мільёнам праваслаўных Польшчы і магнітам прыцягвала да сябе людскія душы.

Працяг у наступным нумары.

# ЭКСЛІБРЫСЫ Мікалая ТАРАСІКАВА

«Беларускае таварыства бібліяфілаў», створанае ў 20-х гадах у Мінску, нямала зрабіла для развіцця краязнаўства і кнігавыдання ў рэспубліцы. Рост пісьменнасці і кніжнай культуры ў Савецкай Беларусі выклікаў у тыя ж гады шырокае распаўсюджанне мастацтва экслібрыса. Актыўна працавалі ў гэтым жанры «малой графікі» беларускія мастакі Гуткоўскі, Мінін, Юдовін, Грубэ, Тычына.

«Баранавіцкі клуб кнігі», які існуе ўжо некалькі гадоў, выпускаючы своеасаблівую анталогію беларускага экслібрыса, як бы працягвае справу, пачатую «Таварыствам». Першы выпуск «Анталогіі» — падборка з дзесяці кніжных знакаў работы Валянціна Ціхановіча — выйшаў у 1967 годзе. Ён быў прысвечаны юбілею БССР і КПБ. У наступныя гады былі арганізаваны выпускі экслібрысаў Яўгена Красоўскага, Яўгена Ціхановіча, Анатоля Тычыны.

Нядаўна выйшаў пяты выпуск «Анталогіі». Гэта экслібрысы Мікалая Тарасікава — аднаго з нямногіх беларускіх мастакоў, якія ў 50-х гадах спрыялі аднаўленню ў Беларусі цікавасці да культуры і мастацтва экслібрыса.

Прысвячаючы пяты выпуск «Анталогіі беларускага экслібрыса» работам Мікалая Лукіча Тарасіква, «Баранавіцкі клуб кнігі» аддае даніну памяці мастака.

В. ПАЛІКАРПАЎ.












# Неон і свечкі

*ШВЕДСКІЯ МАЛЮНКІ*

## МІМА АЗЁРАЎ

Дарога ад Стакгольма да Гётэборга складае каля пяцісот кіламетраў. Яна перасякае Швецыю ад Балтыйскага да Паўночнага мора.

У нязменнай белай сарочцы сядзіць за рулём Эстэ. Побач—на нізенькім сядзенні—Ханс. Прыцішана іграе радыё. Пахмурна, ідзе дождж. Імчацца насустрач з запаленымі фарамі аўтамашыны. Асеннія, бурыя лясы, камяністыя зрэзы ўзгоркаў абапал шашы.

Аўтобус ідзе роўна, мякка. Няма адчування хуткасці, часу. Так можна ехаць многа гадзін запар, увесь дзень, некалькі дзён.

Просім Ханса праспяваць якую-небудзь шведскую народную песню. Ён устае, бярэ маленькі мікрафон і запявае. Просценькі, няхітры вясковы напеў. Потым ён прапануе праслухаць народную песню, запісаную на плёнку. Уключае магнітафон. Гучыць сумная, шырокая мелодыя. Спяваюць два галасы, але спяваюць як адзін, пакараючы задушэўнасцю і глыбінёй пачуцця.

Ізноў азёры, палі і ціхія гарадкі з востраверхімі шпілямі цагляных цэркавак...

Падвечар пад'язджаем да Гётэборга — другога па велічыні горада Швецыі. Над дарогай вісіць ланцуг залатых агнёў, кідаючы на асфальт непрывычны аранжавы водбліск. Ззяюць ярка-белыя аўтамабільныя фары, чырвоныя агеньчыкі машын, якія ідуць наперадзе, зялёныя агні светафораў.


Старажытны замак у Эрбры.

Раптам залатая дарога абрываецца, наш аўтобус аказваецца на вузкай, бруднай шашы, прыціснуты нейкімі грузавікамі. Некалькі паваротаў і мы ля гасцініцы—толькі што пабудаванага матэля, які адзінокім зубам тырчыць ля чыгуначных пуцей.

На другі дзень зноў дождж. За мокрымі шыбамі аўтобуса гарбатыя вуліцы Гётэборга, дамы, якія стаяць на гранітных глыбах, белыя целы велізарных суднаў у порце, высока ўзнесеная над морам статуя «жонкі марака».

Ратуемся ад дажджу ў мастацкім музеі. Тут сабрана багатая калекцыя карцін еўрапейскіх і айчынных мастакоў. Палотны Рубенса, Веранезе, Рэмбранта (адзін з аўтапартрэтаў), Сезана. Выдатныя партрэты работы шведскага мастака Цорна. Тут жа можна ўбачыць адно з рэдкіх палотнаў Пікасо, на якім намалявана сям'я акрабата—ён сам у паношаным трыко, яго маладая жонка з малым на руках і старая малпа ля іх ног. Карціна вельмі прыгожая—нервовы, прыгожы малюнак, прыглушаны ружова-блакітны каларыт.

Праз дзень мы пакідаем Гётэборг і едзем на поўдзень, у Мальмё.

## ЛЯЛЕЧНАЯ ФАБРЫКАНТКА

Дождж перастаў. Дарога ляжыць міма мора, праз урадлівыя землі поўдня. Зусім побач Данія. Яе абрысы віднеюцца нават у пахмурнае надвор'е. Вясёлы прыбярэжны гарадок Хельсінор стаіць супраць дацкага Хельсінгёра. Недзе непадалёк руіны старога замка, таго самага Эльсінорскага замка, дзе, паводле падання, жыў прынц Гамлет. Ля гарадскога прычала мноства маленькіх і вялікіх суднаў. За некалькі мінут яны перасякаюць вузкую палоску вады, якая аддзяляе дзве суседнія дзяржавы.

Мальмё — ажыўлены партова-турысцкі горад. У цэнтры горада—старажытная чырвоная ратуша і конная статуя караля Георга ў латах і шлеме. Побач велізарныя вітрыны сучасных магазінаў. У Мальмё адзін з буйнейшых у Скандынавіі тэатр на 1 700 месц. А ў парку — амфітэатр пад адкрытым небам, узведзены па прынцыпе грэчаскага. Змрочная крэпасць XVI стагоддзяператворана ў музей. Там можна ўбачыць не толькі карціны, але і калекцыі птушыных чучалаў, акварыумы, падобныя на оперныя дэкарацыі і цэлыя майстэрні з усім інструментам—краўца, бляхара, сталяра. Насупраць крэпасці—музей тэхнікі. Яго галоўны экспанат — выцягнутая з дна мора велізарная падводная лодка, якая дзіўнай пачварай ляжыць на траве.

Мальмё быццам спецыяльна створаны для турыстаў — лёгкі клімат, добраўпарадкаваны пляж, многа забаў. Чаго варты адзін магазін цацак для дарослых. Усе рэчы, якія прадаюцца ў ім, прызначаны для розыгрышу сяброў і знаёмых. Тут і выбуховыя цыгары, і ўсялякія ляскаўкі, пугачы, пісталеты. Прадаюцца гумавыя змеі і жабы, зусім як сапраўдныя. Іх вы можаце за абедам падсунуць суседу ў талерку або пакласці цешчы ў ложак. Ну, а бутафорскія экскрэменты (таксама вельмі натуральна выкананыя) адсылаць сябрам па пошце ў дзень анёла.

У гэтым горадзе ўмеюць рабіць добрае ўражанне, рабіць усё, каб турысты заўважылі, што іх ветліва абслугоўваюць проста з-за павагі, а не за грошы. Нас пасяляюць у выдатнай гасцініцы, у нумарах з тэлевізарам.

Раніцай, пасля агляду цэнтральнай часткі горада, нас заводзяць у старажытны, трохсотгадовай даўнасці дом пад назвай «Дом лялек». Мы аказваемся ў цеснай сувенірнай краме, густа завешанай маленькімі лялькамі ў шведскіх нацыянальных касцюмах. Тут і ярка прыбраныя безаблічныя пейзане, і знаёмы Нільс вярхом на гусі, і Пэпі Доўгаяпанчоха, і рыжы Карлсан. Лялькі гойдаюцца на нітках пад нізкай столлю, тоўпяцца на паліцах, вісяць на сценах.

З ветлівай усмешкай з-за прылаўка ўзнімаецца пажылая жанчына ў нейкай хатняй безрукаўцы і непрыгожай сукенцы. Гэта гаспадыня «Дома лялек» — пані Шарлота Вейбул. Завучаным жэстам бярэ яна падрыхтаваную на прылаўку ўказку і пачынае паказваць цацкі. Яна гаворыць гладка, быццам ўсё жыццё чытала лекцыі. У яе выступленні дзве тэмы — невычэрпная любоў да шведскага народнага касцюма і пяшчотная прывязанасць да дзяцей.

Па вузенькай лесвіцы яна вядзе нас на другі паверх, дзе з той жа лектарскай упэўненасцю дэманструе на пакорлівай і бяссло́ўнай жанчыне (прыбіральшчыцы?) народныя галаўныя ўборы. Потым запрашае ў маленькі суседні пакойчык, дзе перад трыма радамі крэслаў стаіць стол з кардоннай сцэнай. На партале кардоннага тэатра буйнымі літарамі напісана імя гаспадыні.


Куток у цэнтры Стакгольма.

У гэтую залу, гаворыць яна, мы запрашаем дзяцей і паказваем ім лялечныя прадстаўленні. Вядома, бясплатна, запэўняе яна. Бо яна так любіць дзяцей. Хто іграе лялькамі? Не, не акцёры. Проста дзяўчаты з педагагічнага інстытута, будучыя настаўніцы і выхавацельніцы. Ці бываюць выязныя спектаклі? Так, бываюць — яна ж так любіць малышоў!..

Па яе загадзе нам дораць па ляльцы (самай маленькай і таннай, хоць паняцце таннасці вельмі ўмоўнае), па маляўнічай паштоўцы з партрэтам гаспадыні, і мы, ашчасліўленыя, пакідаем гэту мілую ўстанову.

— Яна дрэнна разбіраецца ў шведскім народным касцюме, але вельмі багатая і ўплывовая. Сто сорак работніц працуюць на яе, — гаворыць мясцовы лялечнік, нешматслоўны барадач Іорге Борэн.

Мы разумеем, што аказаліся ўдзельнікамі недарэчнага спектакля. Нашы сэрцы наіўна таялі ад слоў гэтай дамы і яе шчодрасці. А яна ў гэты час зарабіла добрую суму ад фірмы «Рэсо», якая заплаціла ёй не толькі за «кваліфікаваную лекцыю», але і за падораныя нам лялькі і паштоўкі.

## НАТОЎП АДЗІНОКІХ

Адзін з вечароў адведзены на наведванне кіно. Хочацца паглядзець добры шведскі фільм. Але аказваецца, што ідуць толькі бяздарныя баявікі з няспыннай стральбой, пагонямі і гвалтамі, антысавецкі «Доктар Жывага», бачаны намі савецкі фільм «Ганна Карэніна», і італьянскі «Сатырыкон» у пастаноўцы Феліні.

Мы выбіраем апошні, справядліва мяркуючы, што гэты фільм у нечым тыповы для сучаснага заходняга кінамастацтва.

Невялікая зала кінатэатра пустая— фільм ідзе ўжо даўно. «Круцяць» нейкі рэкламны ролік, у якім паўраздзетыя ён і яна пры дапамозе ўскоранай здымкі скачуць у шырокі двухспальны ложак. Потым пачынаецца фільм.

Пераказаць гэту карціну амаль немагчыма. Яна ішла ў італьянскім арыгінале з шведскімі цітрамі. Фільм шырокаэкранны, каляровы, двухсерыйны, з велізарнай колькасцю персанажаў. На палатне экрана—старажытны свет, узноўлены бурнай, невычэрпнай і нейкай паталагічнай фантазіяй. Светлавалосы, амаль голы герой, тлустыя морды п'яных рымлян, нафарбаваныя старыя жанчыны, сумныя авалы іудзейскіх твараў, вялікагаловыя карлікі, калекі. Грубыя, фантастычныя будынкі. То гэта складзеныя з велізарных глыб сцены, то сярэдзіна вежы якая нагадвае вавілонскую і разбураецца накшталт той, то каменны лабірынт пад адкрытым небам, то паўцёмны трум галеры. Павозка з дзіцем-калекам, прывязаны белы конь. І зноў размаляваныя фізіяноміі, натоўпы, якія дзіка скандыруюць... Жахлівыя карціны гібелі разбэшчанага, сытага грамадства. І карціны чалавечага бяссілля. Бяссілля светлавалосага героя. Бяссілля пажылага рымляніна, які адпускае на волю рабоў, адпраўляе некуды сваіх кучаравых дзетак і застаецца ў пустым доме сам-насам з жонкай, каб пры ёй, моўчкі, успароць сабе вены.

На экране тэлевізара ў той вечар не было ні пагоняў, ні стральбы, ні гандлёвай рэкламы. Спачатку дыктар няспешна прачытаў па паперцы апошнія паведамленні, а потым пачалася перадача з цыкла «Чалавек — прырода — грамадства». Перадача праблемная, размова аб жыцці сучаснага чалавека. У ёй прымалі ўдзел вядомыя журналісты, адвакаты, сацыёлагі...

Перадача прысвечана людзям паўночнай Швецыі, тым, хто нарадзіўся там або доўга пражыў у далёкіх і малалюдных месцах, прывык да іх, і каго прымусіла пераехаць у шумны Стакгольм не добрая воля, а беспрацоўе, якое ахапіла поўнач краіны.

На экране — панарама заснежаных горных хрыбтоў. Маленькія адзінокія домікі прыціснуліся да скал. Запрэжкі аленяў, пусты, нібы вымерлы, бераг мора. Потым узнікаюць вуліцы Стакгольма. Звычайныя, не парадныя вуліцы з шыльдамі, аўтамашынамі, прахожымі. Вось камера выхоплівае з натоўпу чалавека. Просты, агрубелы ад сцюжы і ветру твар. За кадрам гучаць пытанні. Твар уважліва ўслухоўваецца, потым блытана і нетаропка пачынае адказваць. Цэлая серыя такіх інтэрв'ю з людзьмі featureнага ўзросту. Адказваюць звычайна, старанна падбіраючы словы. Калі пачынаюць успамінаць аб жыцці на поўначы, прывычная заклапочанасць і збянтэжанасць знікаюць з твару — цяплеюць вочы, добрая ўсмешка з'яўляецца на вуснах. Так, яны вельмі любяць поўнач, яе суровую прыроду, сумуюць па ёй. Ніхто з іх ніколі там не адчуваў сябе адзінокім, хоць там ёсць месцы, дзе вельмі мала людзей. А вось цяпер, калі яны пасяліліся тут, у гэтым вялізным, людным горадзе, пачуццё адзіноты не пакідае іх.

Аўтары перадачы выхапілі з гарадскога натоўпу толькі пяць—шэсць чалавек. Гэтыя людзі прызналіся, што яны адзінокія, гэта значыць няшчасныя. Бо быць адначасова адзінокім і шчаслівым нельга. І хто ведае, калі б камера спыняла кожнага з тых, хто тады ішоў па вуліцы, ці не пачулі б тэлегледачы такія ж адказы і ад астатніх прахожых.

## СІНІЯ СВЕЧКІ

Пасля начнога пераезду ў цягніку— зноў Стакгольм.

Стракаты, па-рознаму апрануты натоўп на фоне велізарных вітрын. Доўгія валасы і фантастычнае ўбранне моладзі.

— Ханс, гэта хіпі?

— Думаю, што не. Зараз холадна, і хіпі сядзяць дома. Бо яны амаль не носяць адзення і ходзяць босыя. Вось улетку іх многа.

— А ў эканамічным інстытуце, дзе вы вучыцеся, ёсць хіпі?

Ханс смяецца.

— Ні аднаго. Хіпі не вучацца і амаль не працуюць. Такіх, як мы, яны не любяць.

— Чаму?

— Пасля заканчэння інстытута з нас выйдуць дзяржаўныя служачыя, чыноўнікі. Мы будзем падтрымліваць

---

Заканчэнне. Пачатак гл. 1 і 8 студзеня г. г.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

Уладзімір ОТЧЫК



## ПАЛАТАЧНЫ ГАРАДОК

НА ДЗЕНЬ нараджэння да Карпа Ігнатавіча Шаркуна сабраліся самыя блізкія сябры і паплечнікі. Кожнаму з іх хацелася зрабіць прыемнае свайму шэфу, які вось ужо сем гадоў стаіць ля руля будаўнічага трэста.

Як заўсёды, усіх абскакаў начальнік аддзела забеспячэння Барыс Зухман. Ён уручыў шэфу невялікую каробку, загорнутую ў цэлафан. Перад гэтым падарункам пабляклі і набор пазалочаных лыжак галоўнага інжынера Кажана, і тульскі баян эканаміста Гузянкова. У каробцы, паблісківаючы нікеляванымі часткамі, ляжаў партатыўны паўправадніковы тэлевізар.

— Ах вы, мае родныя, — расчулена прамармытаў Карп Ігнатавіч і прыклаў да вачэй насоўку.

Па гэтым сігнале і пачалася святочная вячэра. Пілі і елі хто колькі мог. Затым перайшлі да задушэўных размоў пра сяброўства і ўзаемадапамогу. Нарэшце Карп Ігнатавіч успомніў юнацкія гады, калі ён плаваў матросам на рачным буксіры «Нептун».

— Як успомню — слёзы цякуць, — апавядаў шэф, шморгаючы носам. — Стаіш, бывала, на вахце, салаўёў слухаеш... А сонейка як узыходзіць! Мо разоў дваццаць адпачываў я пасля таго на поўдні, а такога хараства не бачыў. Эх, браткі, каб вярнуць хаця б на дзень тыя часіны...

Зухман пры апошніх словах Карпа Ігнатавіча адарваўся ад тлустай гусінай ножкі і ўнёс прапанову:

— Навошта нам поўдзень? Мы маем свой поўдзень. Ёсць у мяне на прыкмеце месцейка, дзе я паляваў, кхе-кхе, на гусяцінку. Чым не курорт? Палатачкі можна паставіць...

— Бора, хадзі я абдыму цябе, — працягнуў рукі шэф, — ты ў нас мудры, як гузік цара Саламона. Сапраўды, сябры, чаму б нам не правесці чарговы адпачынак у палатачным гарадку?

Праз месяц Карпа Ігнатавіча з сям'ёю ўрачыста праводзілі на летні адпачынак. Разам з шэфам у палатачны гарадок ад'язджалі таксама Гузянкоў і Зухман з жонкамі і дзецьмі.

На борт трэстаўскага катэра ўзняліся, як узнімаюцца на карабель, што адплывае ў невядомыя краіны. Карп Ігнатавіч боцманскім басам загадаў адчальваць, і катэр імкліва слізгануў на рачную прастору. Затым Шаркун падазваў Зухмана і, перакрыкваючы гул матора, строга спытаў:

— А там як? Ціха?

— Ніводнай душы на дзесяць вёрст!

Не прайшло і гадзіны, як катэр прычальваў ужо да нізкай і шырокай баржы, над якою трапятаў блакітны сцяжок са скрыжаванымі якарамі. Карп Ігнатавіч падазрона пагледзеў на Зухмана.

— Гэта памяць аб вашым матроскім юнацтве, — падняў вочы на сцяжок забеспячэнец.

— А гэта? — шэф тупнуў нагою па палубе баржы.

— Гэта, Карп Ігнатавіч, адзінае, што звязвае нас з цывілізацыяй, — горача зашаптаў Зухман. — Яна наша, трэстаўская...

Палатачны гарадок бялеў у лагчынцы ў засені векавых дубоў. Палатка ж шэфа стаяла на ўзгорку воддаль, як шацёр палкаводца.

Размясціліся хутка. Карп Ігнатавіч, заклаўшы рукі за спіну, прайшоўся між палаткамі і аддаў загад:

— Мужчыны — збіраюць ламачча, а жанчыны і дзеці распальваюць вогнішча! Дзейнічаць, як рабінзоны на бязлюдным востраве!

Але не паспелі рабінзоны выканаць загад, як з-за лесу насунулася шыза-чорная хмара, і зямля скаланулася ад грому. На палатачны гарадок суцэльнай сцяною ўпаў лівень.

— Барацьба са стыхіяй і рамантыка — непадзельныя! — гаварыў жонцы Зухман, выкручваючы ў сваёй палатцы сарочку і порткі. — Мы супрацьпаставім стыхіі прарызіненыя палаткі і спальныя мяшкі. А на крайні выпадак ёсць і яшчэ нешта...

Лівень не сціхаў усю ноч. Уранні ўсе палаткі, што стаялі ў лагчынцы, здаваліся паруснымі лодкамі сярод імклівага патоку. Адна толькі Шаркунова моцна стаяла на ўзгорку. Адтуль неслася вясёлая эстрадная песенька пра серабрысты дожджык — працаваў паўправадніковы тэлевізар.

Барыс Зухман, ведучы за сабою чараду мокрых да ніткі рабінзонаў, узышоў на пагорак да палаткі шэфа і нясмела пакашляў.

— Ведаеш, браце, — сустрэў яго Карп Ігнатавіч,— ніколі яшчэ так цудоўна не спаў, як пад сённяшні лівень.

Ля ўваходу ў палатку пачуўся дзіцячы плач і лямант жанчын. Карп Ігнатавіч пільна пагледзеў на Зухмана, які стаяў з закасанымі калашынамі, а затым выглянуў з палаткі і ўсё зразумеў.

— Што рабіць будзем, Бора? Катэр прыйдзе толькі на наступным тыдні, а людзей, як ты кажаш, на дзесяць вёрст няма...

— Дазвольце дзейнічаць?! — узрадаваўся Зухман. — Я прадугледзеў і гэта.

Распырскваючы лужыны, забеспячэнец падбег да абгарэлага дуба і запусціў руку ў дупло. Праз момант ён ужо крычаў у тэлефонную трубку:

— Алё! Зухман на провадзе! Аўрал нумар тры! Дзейнічаць, як дамоўлена!

— Ну, Бора, з табою і ў агні не згарыш, і ў вадзе не патонеш, — пакруціў галавою шэф. — Калі ты ўсё гэта паспеў наладзіць?

— За гэта і грошы атрымліваем, — сціпла панурыўся забеспячэнец.

Пакуль дзеці грэліся ў палатцы Карпа Ігнатавіча, усе дарослыя па калена ў вадзе перацягвалі рэчы з затопленай лагчыны на ўзгорак. Неўзабаве з ракі пачуліся прарэзлівыя гудкі трэстаўскага катэра.

Ледзь паспеў катэр прышвартавацца да баржы, як з яго саскочылі сямёра дзецюкоў у брызентавых робах з сякерамі ў руках. Падпарадкоўваючыся загаду Зухмана, яны ў адно імгненне адкрылі люкі на баржы і пачалі выносіць на бераг нейкія бэлькі і дошкі. Затым дзецюкі подбегам перанеслі ўсё выгружанае на ўзгорак і пачалі стукаць сякерамі, састаўляючы шчыты, бэлькі і дошкі...

Надвячоркам выглянула з-за хмар сонейка. Яно весела зайграла ў зашклёных вокнах трох двухпакаёвых домікаў і разлілося ўсмешкамі на тварах усіх насельнікаў гарадка. Адпраўляючы катэр у зваротны шлях, Зухман яшчэ раз паўтарыў вусатаму брыгадзіру:

— Ты, Дзямян, памятай: заўтра ж даставіць тры газавыя пліты з балонамі, электрарухавічок, нерат на сто метраў і астатнія дробязі...

Катэр паволі адчаліў ад баржы і схаваўся за паваротам. Толькі тады Карп Ігнатавіч падышоў да Зухмана:

— Слухай, Бора. Як ні разважай, а ўсё гэта можа дрэнна скончыцца. Што людзі скажуць?..

— Пра што вы, Карп Ігнатавіч? Пра наш гарадок? Не турбуйцеся, дарагі. Мяркуйце самі: сам кіраўнік, прыйшоўшы на голае месца, цэлы месяц пакутаваў, каб потым падарыць сваім рабочым добраўпарадкаваную турысцкую базу!

...Ноч сыпалася зоркамі за сіні лес, звінела салаўямі і шамацела лісцем дубоў, але Карп Ігнатавіч не мог заснуць — ён абдумваў прамову, з якою праз месяц выступіць перад сваімі падначаленымі на ўрачыстым адкрыцці трэстаўскай турысцкай базы.

г. Мазыр.

## ЗІМА!

Мал. Ю. ГРЫГОР'ЕВА.



— Я ж табе казаў, што сёння — 30 ніжэй нуля...



## ХОЦЬ ПРАЙШЛО 150...

*На Украіне часта выходзяць зборнікі гумару і сатыры. Кніжкі розныя—і тоўстыя, і тонкія, з твораў нашых сучаснікаў і пісьменнікаў мінулых стагоддзяў. Пачаў я неяк чытаць адну такую кніжку.. Бацюхны, ды як жа па-сучаснаму гучаць некаторыя творы, хоць напісаны яны гадоў 150 назад!*

*Прапаную ўвазе чытачоў два вершы ў маім перакладзе.*

П. МІСЬКО.

П. ГУЛАК-АРТАМОЎСКІ

(1790—1865 гг.)

### ЦЮХЦЯЙ І ЧВАНЬКО

*Пабрахенька*

**Наш вершаплёт Цюхцяй як што ў каго пачуе,**
**Ці праўду, ці хлусню, — усё цішком натуе.**
**Але ці жартам што напіша, ці ўсур'ёз,**
**У куфар запраторыць тых паперак стос.**
**І цэлых дзевяць год той пісаніны не чапае,**
**А на дзесяты выме ўсё ж і пачытае —**
**І прэ адразу ўсе свае шпаргалкі ў печ!..**
**А брат яго Чванько слабы на гэту рэч!**
**Завалачэ ў друкарню ўсё, што скінуў з плеч!**
**Але аднолькава іх людзі паважаюць:**
**Не чулі аднаго, другога не чытаюць!**
**Дурнейшы хто, дык я сказаць вам не гатоў—**
**Няма ні ў воднага ні кропелькі глуздоў...**
**Дык першы хоць за працу той набытак мае,**
**Што раз у дзевяць год цяпло ў яго шугае.**
**А той, разумненькі, знай курчыцца, дрыжыць,**
**Хоць кніжак у яго раўметраў пяць ляжыць.**

Леўка БАРАВІКОЎСКІ

(1806—1889 гг.)

### ДА ДРУКАРА

**Друкар мой! Удружы, дзе трэба кропку стаў,**
**Каб крытык нізашто абодвух не схвастаў;**
**Бо ёсць такі: не знойдзе толку — будзе ціха;**
**Не знойдзе ж кропкі—ліха.**



Імклівы поступ цывілізацыі.

Мал. М. ЧАРНЯЎСКАГА.

Мікола ВЯРШЫНІН

### СУЦЕШЫЎ

**— Я хворы быў—мяне ты не наведаў.**
**— Памылку выпраўлю я ў іншы час.**
**Аб тым, што захварэў ты, я не ведаў.**
**Хварэў, дай бог, ты не апошні раз.**

### ЖАРТ

**— Чаго ты ўпаў, скажы, браток!**
**— Бо слізка. Хіба не!**
**— А я падумаў —назнарок,**
**Каб пасмяшыць мяне.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі

Індэкс 63856 АТ 07524.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-21-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісы не вяртаюцца.